*Памяці слонімскага гісторыка,*
*краязнаўцы, археолага і паэта*
*Васіля Рыгоравіча Супруна (1926–2007)*

## 1. Калі з'явіліся першыя людзі на Слонімшчыне?

Першыя людзі на тэрыторыі Слонімшчыны пачалі з'яўляцца яшчэ 14 тысяч гадоў таму, калі край наш уяўляў сабою тундравую і лесастэпавую прастору, праз якую мігравалі статкі паўночнага аленя. Самыя раннія стаянкі паляўнічых на паўночнага аленя ў нашым краі былі каля Едначоў, Камлявіч і Шылавіч, дзе знойдзены крамянёвыя прылады працы, якія выкарыстоўваліся старажытным чалавекам. Інтэнсіўнае ж засяленне Слонімшчыны пачалося толькі ў эпоху мезаліту (сярэдняга каменнага веку) — каля 10 тысяч гадоў таму.

## 2. Што такое «шведскія курганы»? Чаму яны так называюцца? І дзе знаходзяцца ў нашым краі?

У народнай памяці з'яўленне «шведскіх курганоў» звязвалася з падзеямі Вялікай Паўночнай вайны XVIII стагоддзя паміж Швецыяй і Расіяй, Карлам XII і Пятром I. Арэнай гэтай барацьбы стала Рэч Паспалітая, у склад якой уваходзіла і Беларусь.

Шведскія курганы расцягнуліся трыма лініямі па былым Слонімскім павеце: 1) ад мястэчка Дварэц праз Горкі і Ісаевічы да Слоніма; 2) Едначы, Паўлавічы, Васілевічы; 3) праз Дзярэчын, Старую Весь, Азярніцу і Мыслава. Таксама яны знаходзяцца каля вёсак Галынка, Высокае, Салавічы і Лушнева. Іх размяшчэнне супадае з рухам шведскіх войск і іх аддзелаў вясною 1706 года.

## 3. Дзе і калі быў знойдзены вядомы слонімскі ідал? Што ён сабою ўяўляе?

Ён быў знойдзены ў 1934 годзе пры капанні катлавана пад будову фундамента для жылога дома ў ваколіцах Слоніма, на выгане, дзе раней ніколі не было будынкаў. Каменная галава знаходзілася на глыбіні каля паўметра. Высечаная з ракушачнага вапняку, яна ўяўляе сабою мужчынскую галаву з завостранай барадой. Шыя гэтай галавы мае выгляд кліна для ўстаноўкі ў пні дрэў ці, магчыма, у спецыяльна выраблены каменны пастамент. Памеры: вышыня 46 сантыметраў, даўжыня 22 сантыметры, шырыня 15 сантыметраў. У 1938 годзе ідал быў перададзены ў Слонімскі музей.



• *Слонімскі ідал*

## 4. Дзе на Слонімшчыне доўгі час захоўваліся рэшткі паганскага капішча?

Каля вёскі Лапухова Слонімскага раёна, ва ўрочышчы Пеннае балота. Вялікія камяні ўтваралі вакол балота падабенства сцяны з двума выхадамі. У сярэдзіне балота знаходзіўся Груд (Сухая града — узвышанае месца, абнесенае вакол ровам, а на самай вяршыні меліся насыпы з вялізнымі камянямі). Паводле мясцовай легенды, тут было сяло, якое спаліў Змей. На ўзгорку ляжаў вялізны Чортаў камень з мноствам паглыбленняў у выглядзе слядоў дзіцячай нагі, авечкі і г. д. На гэтым камені, як расказваюць, збіраліся і танцавалі чэрці, а вакол яго было прынята святкаваць Купалле. Легенды пра Змея і чарцей — гэта відазмененыя водгукі старажытных вераванняў, а наяўнасць каменя-следавіка і звычаю святкавання Купалля сведчаць пра традыцыю культавага выкарыстання гэтага месца. На жаль, пры меліярацыі ўзгорак быў зраўняны з балотам, а Чортаў камень звезены.

## 5. Як раней называўся Слонім і што азначае яго назва?

У старых летапісах да XIV стагоддзя Слонім успамінаўся як Услонім, Вслонім, Васлонім. Найбольш верагодна, што назва горада паходзіць ад славянскага слова *заслона*. Паводле іншых меркаванняў — ад літоўскага слова *slenis* — нізіна (горад ляжыць у нізіне). Назва горада магла ўзнікнуць і ад слова *слон*, таму што існуе легенда, што на тэрыторыі Слоніма некалі знаходзілі шмат слановых (мамантавых) касцей. Назва горада магла ўтварыцца і ад польскіх слоў *słoma* (салома) і *słonina* (сала), — прыхільнікі гэтых версій спасылаюцца на саламяныя дахі старых будынкаў горада і на шырокі гандаль салам.

## 6. Ці быў у Слоніме старажытны замак?

Драўляны замак у Слоніме, паводле пісьмовых сведчанняў, існаваў. Але дакладных звестак, дзе ён знаходзіўся, няма. Назва старажытнай Замкавай вуліцы і план горада 1795 года сведчаць, што замак у Слоніме, як і старажытны цэнтр горада, да XVI стагоддзя знаходзіўся на правабярэжжы ракі Шчары, на так званым Замосці. Ён месціўся паміж рэчышчам ракі Шчары і яе невялікім прытокам Гарадзянкай.

Але драўляны замак быў амаль знішчаны мангола-татарамі ў 1241 годзе. Хаця поўнай інфармацыі пра гэта няма. Бо вядома, што з 1248 года ў Слонімскім замку пачаў княжыць старэйшы сын Міндоўга Войшалк. А сам Міндоўг быў князем у Наваградку. Верхні замак у Слоніме быў узведзены ажно ў 1520 годзе пры слонімскім старосце Яне Радзівілу на ўзвыш-



• *Слонімскі замак. Малюнак Васіля Супруна*

шы левага берага Шчары, амаль побач з былым старажытным гарадзішчам. З пераносам замкавых збудаванняў на другі бераг ракі сюды перамясціўся і цэнтр горада. З цягам часу там значна ажывілася будаўніцтва горада.

## 7. Калі Слонім упершыню ўпамінаецца ў Іпацьеўскім летапісе?

Першае ўпамінанне пра Слонім у Іпацьеўскім летапісе адносіцца да 1252 года. Паводле летапісу, у Слоніме ўладарыў князь Васілька, які знаходзіўся ў васальнай залежнасці ад валынскага князя Уладзіміра.

## 8. Калі Слонім увайшоў у склад Вялікага Княства Літоўскага?

Слонімшчына ўвайшла ў склад Вялікага Княства Літоўскага ў канцы XIII — пачатку XIV стагоддзя. Слонім у 1283–1315 гадах знаходзіўся пад аховай князя Віценя — брата вялікага князя Гедыміна. А ў 1315–1345 гадах належаў князю Манівіду — старэйшаму сыну Гедыміна.

## 9. Якое значэнне мелі князі Кейстут і Вітаўт для Слоніма?

Пры князю Альгерду, які быў вялікім князем з 1345 да 1377 года, Слонімшчына заставалася ўдзельным княствам у складзе Вялікага Княства Літоўскага і ахоўвалася яго братам Кейстутам.

Пасля таго, як у Крэве ў 1382 годзе быў задушаны Кейстут, Слонім перайшоў пад непасрэдную апеку князя Вітаўта. Вітаўт неаднаразова наведваў Слонім і ваколіцы. Прыязджаў ён сюды ў 1407 і ў 1409 гадах. Ды і пасля крэўскага астрога Вітаўт ратаваўся на Слонімшчыне, меў тут надзейных сяброў і прытулак.



• *Вітаўт*

## 10. Ці прымалі слонімцы ўдзел у Грунвальдскай бітве?

Грунвальдская бітва паміж злучаным войскам Польшчы і Вялікага Княства Літоўскага (Ягайла і Вітаўт; 31,5 тысячы чалавек) і войскам Тэўтонскага ордэна (Ульрых фон Юнгінген; 27 тысяч чалавек) адбылася 15 ліпеня 1410 года. Поўную перамогу, пасля цэлага дня сечы, узяло саюзнае войска Польшчы і ВКЛ. Загінулі 18 тысяч нямецкіх рыцараў, воінаў і чэлядзі, яшчэ 14 тысяч былі ўзяты ў палон, а ўратавалася толькі трохі больш за 1400 чалавек. Былі арыштаваны ўсе гарматы і 52 сцягі крыжацкага войска. У бітве на баку Вялікага Княства Літоўскага брала чынны ўдзел і Слонімская харугва пад трохкутным чырвоным сцягам (харугвай).

## 11. Хто такі Леў Сапега?

Леў Сапега (1557–1633) — адзін з найбольш уплывовых дзяржаўных і вайсковых дзеячаў Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай у канцы XVI — першай трэці XVII стагоддзя. Пісар (1581–1585), падканцлер (1585–1589) і канцлер вялікі літоўскі (1589–1623), ваявода віленскі (з 1623) і адначасова з 1625 года — гетман вялікі літоўскі. 47 гадоў ён быў старостам слонімскім і пакінуў значны след на слонімскай зямлі.



• *Леў Сапега*

## 12. Якая заслуга Льва Сапегі перад Слонімам?

Пры Льву Сапегу Слонім стаў культурным, прамысловым і палітычным месцам. Побач з замкам на беразе Шчары канцлер Сапега ўзвёў мураваны палац, дзе са студзеня 1597 года праходзілі генеральныя сеймікі Вялікага Княства Літоўскага. У Слонімскім замку знаходзілася і добрая бібліятэка, архіў, творы мастацтва. Леў Сапега добраўпарадкаваў у Слоніме вуліцы, масты, дарогі, пабудаваў шмат аўстэрый. Ён адкрыў новыя кірмашы, прамысловыя мануфактуры, будаваў адміністратыўныя і гаспадарчыя будынкі.



- *Сучасны герб Слоніма*

## 13. Калі Слонім атрымаў свой герб?

Горад Слонім атрымаў свой герб 4 студзеня 1591 года. Атрымаў яго па хадайніцтву Льва Сапегі каралём Жігімонтам III. Герб Слоніма мае такі выгляд: на блакітным шчыце залаты леў стаіць на задніх лапах і трымае сярэбраную стралу ў выглядзе падвойнага крыжа.

## 14. Калі Жыровічы атрымалі свой герб?

Герб Жыровічаў быў зацверджаны 14 сакавіка 1613 года. На ім адлюстраваны на блакітным полі дзве мужчынскія постаці: правы мужчына стаіць на каленях, левы трымае ў працягнутых руках кнігу.



- *Герб Жыровічаў*

## 15. Калі ў Слоніме з’явілася першая друкарня?

У Слоніме пры Льву Сапегу існавала адна з самых вялікіх у Вялікім Княстве Літоўскім друкарняў, дзе, як мяркуюць некаторыя даследчыкі, набіраўся вядомы на ўсю Еўропу Статут Вялікага Княства Літоўскага. Друкарня была ў Слоніме і ў XVIII стагоддзі, калі гаспадаром у горадзе быў

Міхал Казімір Агінскі. Яна знаходзілася ў палацы Агінскага і працавала для патрэб мясцовай оперы. Пасля захопу Слонімшчыны рускімі войскамі ў 1793 годзе разам з операй у заняпад прыйшла і друкарская справа.

## 16. Калі Слоніму было нададзена магдэбургскае права?

Многія гарады ў свой час імкнуліся атрымаць магдэбургскае права, каб выйсці з-пад улады вялікакняжацкіх чыноўнікаў. У 1531 годзе каралеўскай граматай Жыгімонта I Старога магдэбургскае права было дадзена Слоніму. Уся ўлада ў горадзе перайшла ў рукі выбарнай гарадской рады — магістрата, які ўзначальвалі войт і бурмістр. Першы загадваў судом і правам, другі адказваў за гаспадарчую, фінансавую, культурную дзейнасць. Магістрат і войт кіравалі горадам і вяршылі суд над мяшчанамі.

## 17. Калі ў Слоніме быў пабудаваны першы каталіцкі касцёл?

Прыблізна ў 1490 годзе вялікім князем літоўскім і каралём польскім Казімірам Ягелончыкам у Слоніме, побач з Замкавай плошчай, быў збудаваны першы ў горадзе касцёл. На гэтым месцы цяпер узвышаецца касцёл Святога Андрэя на сённяшняй плошчы Льва Сапегі.

## 18. Калі ў Слоніме з’явіліся татары?

У канцы XIV — пачатку XV стагоддзя вялікі князь Вітаўт пасяляе татар у невялікіх калоніях на тэрыторыі Наваградчыны ў якасці памежнай стражы і надзяляе іх зямлёй. У канцы XVI стагоддзя татары пачынаюць прыбываць у Слонім. З XVIII стагоддзя ў Слоніме існавала Татарская вуліца (цяпер вуліца Кірава) і Татарскі завулак. Ужо тады ў Слоніме быў пакладзены пачатак рэлігійнаму мусульманскаму аб’яднанню, бо ў 1765 годзе ў Слоніме ўжо існавала мячэць.



- *Слонімская мячэць. Не захавалася*

## 19. Ці прымалі слонімцы ўдзел у паўстанні пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі?

Паўстанне пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі супраць Расійскай імперыі адбылося ў 1794 годзе. Слонімцы актыўна падтрымлівалі свайго земляка.

Немалыя надзеі ў пашырэнні паўстання ў Беларусі Тадэвуш Касцюшка ўскладаў на дзеянні корпуса генерала Караля Серакоўскага. У канцы ліпеня ён накіраваўся з-пад Высокага праз Шарашова на Слонім. Яго задачай было прыкрыццё Вільні і адначасова недапушчэнне захопу Берасця. З першапачатковых паўтары тысячы чалавек корпус Серакоўскага павялічыўся больш чым удвая за кошт добраахвотнікаў з мясцовай шляхты і сялянства.

2 жніўня пад Слонімам авангард паўстанцаў Караля Серакоўскага, якіх на той час было ўжо чатыры з паловай тысячы, сутыкнуўся з перадавой часткай корпуса генерала Дэрфельдэна. Расійскі бок, у адрозненне ад паўстанцаў, панёс даволі значныя страты — параненымі і забітымі да 300 чалавек. Нягледзячы на спрыяльныя ўмовы для далейшага наступлення, Серакоўскі вырашыў адысці да Ружанаў. Ён не рызыкнуў пайсці на Вільню, якая тады фактычна знаходзілася ў аблозе, а накіраваў туды яшчэ з-пад Слоніма толькі аддзел берасцейскіх добраахвотнікаў-касінераў М. Франкоўскага. Яны ўзялі ўдзел у абароне горада 11 жніўня, многія загінулі ў акопах і на віленскіх мурах. Урэшце адыход К. Серакоўскага пад Бярозу, а потым пад Берасце нельга лічыць беспадстаўным. Даходзілі звесткі, што з Украіны ідзе на Беларусь шматтысячны расійскі корпус пад камандаваннем А. Суворава. Менавіта паўстанцам Серакоўскага наканавана было сустрэцца з яго войскамі.



• *Тадэвуш Касцюшка*

17 верасня непадалёку ад Кобрына, каля вёскі Крупчыцы, з раніцы і да трэцяй гадзіны дня працягвалася найбуйнейшая бітва часоў паўстання 1794 года ў Беларусі. З абодвух бакоў у ёй узялі ўдзел каля 15 тысяч чалавек. Сярод іх былі і амаль дзве тысячы беларускіх сялян-касінераў, набраных К. Серакоўскім пад Берасцем, Кобрынам, Пружанамі, Слонімам, Бярозай.

## 20. Хто такі Міхал Клеафас Агінскі?



• *Міхал Клеафас Агінскі*

Міхал Клеафас Агінскі (1765–1833) — кампазітар, дыпламат і палітычны дзеяч, аўтар шматлікіх паланэзаў, сярод якіх і вядомы паланэз ля мінор «Развітанне з Радзімай». Першапачатковую музычную адукацыю атрымаў у Слоніме пры двары свайго дзядзькі Міхала Казіміра Агінскага. Музыцы яго ў Слоніме вучылі выдатныя педагогі Іосіф Казлоўскі і Джавані Віёці.

## 21. Хто такі Міхал Казімір Агінскі?

Міхал Казімір Агінскі (1728–1800) — гетман вялікі літоўскі і слонімскі староста. Кампазітар, паэт, мецэнат. У 1761 годзе атрымаў у падарунак Слонімскае староства. І ў 1775 годзе прыехаў у Слонім.

## 22. Што ўяўляў сабой тэатр Агінскага ў Слоніме?

У шэрагу першаступенных планаў Міхала Казіміра Агінскага было будаўніцтва ў Слоніме асобнага тэатральнага памяшкання, у якім маглі б ставіцца оперныя спектаклі, так званага тэатра «Opernhaus». Для ажыццяўлення сваёй задумкі гетман Агінскі запрасіў у Слонім італьянскага дэкаратара Іначэнца Мараіна. Той прапанаваў для гэтай мэты рэканструяваць колішні палац

Льва Сапегі. Агінскі з ім пагадзіўся. І ў 1777 годзе будаўніцтва і рэканструкцыя тэатра былі ўжо завершаныя.

Для таго, каб можна было ставіць спектаклі на сцэне тэатра, былі ўзятыя на ўзбраенне найлепшыя для таго часу тэхнічныя сродкі, якія дазвалялі лёгка мяняць дэкарацыі, а пры неабходнасці выводзіць на сцэну нават сапраўдныя караблі. Дзеля гэтага яна была падзелена на дзве часткі. Пярэдняя частка выкарыстоўвалася па сваім непасрэдным прызначэнні: на ёй ігралі акцёры. Задняя ж, пры неабходнасці, лёгка запаўнялася вадой. Ажыццяўлялася гэта праз сістэму труб, што праходзілі да самых тэатральных падмосткаў. Паступала ж вада з канала, які знаходзіўся побач. Гэтая частка сцэны аказвала добрую паслугу і тады, калі па ходу спектакля разгортваліся баявыя дзеянні ці неабходна было паказаць войскі на маршы. У гэтым выпадку ваду спускалі, а зверху клалі тоўстыя шчыты. З тыльнага ж боку сцэны адкрывалася вялізная брама, праз якую магла ўварвацца кавалерыя ці прайсці пяхота. На сцэне нават прадугледжваліся фантаны з падсветкай бенгальскімі агнямі. Пры тэатры тады працаваў спецыяльны піратэхнік Ваксмунт.



• *Міхал Казімір Агінскі*

Функцыянаваў пры тэатры і «плывучы тэатр» на баржах на канале Агінскага. Глядзельная зала была разлічана на тысячу (па іншых звестках — на дзве тысячы) месцаў. Гледачы з залы з

цікавасцю глядзелі на «плывучы тэатр». Для выканання высокамастацкіх твораў і ўвасаблення тэхнічных навін запрашаліся ўмелыя майстры з Еўропы. У тэатры працавала шмат і беларускіх мясцовых майстроў і артыстаў.

Пры сваёй «сядзібе музаў» у Слоніме Міхал Казімір Агінскі стварыў вялікі ансамбль вакалістаў і інструменталістаў, які не саступаў самым лепшым музычным калектывам Заходняй Еўропы.

Пры тэатры Агінскага дзейнічала і балетная школа. Спачатку сярод вучняў пераважалі дзеці прыдворных музыкантаў, а пазней балетам займаліся і дзеці прыгонных сялян.

## 23. Калі перастаў існаваць тэатр Агінскага ў Слоніме?

Пасля падзелаў Рэчы Паспалітай і паўстання Тадэвуша Касцюшкі слонімская рэзідэнцыя Агінскага канфіскуецца і хутка прыходзіць у заняпад. Апошнія гады свайго жыцця Міхал Казімір Агінскі правёў у сваіх палацах у Варшаве і ў Галенаве, дзе цешыў сябе музыкай і мастацтвам — тым адзіным, што ўтрымлівала яго пры жыцці. У 1795 годзе тэатр Міхала Казіміра Агінскага ў Слоніме ўжо не існаваў.



• *Руіны палаца Агінскага*

## 24. Калі быў пабудаваны канал Агінскага?

Па ініцыятыве Міхала Казіміра Агінскага быў пабудаваны Агінскі канал. Спачатку быў пракапаны Малы канал, названы яго імем, які асушыў багністы поплаў Шчары. Само будаўніцтва пачалося ў 1765 годзе на сродкі Міхала Казіміра Агінскага. Ён выдзеліў са сваёй казны 12 мільёнаў злотых. Канал адкрываў магчымасці для экспарту лесу і іншых тавараў праз балтыйскія парты, таму яго будаўніцтва было падтрымана Варшаўскім сеймам Рэчы Паспалітай. Потым быў пракапаны Вялікі канал, які злучыў Шчару з прытокам Прыпяці — Ясельдай. Яго капалі крыху больш як дзесяць гадоў выключна жыхары Слонімскага павета. Даўжыня канала склала 55,5 кіламетра. Урачыстае адкрыццё канала адбылося ў 1784 годзе.

## 25. Калі Слонім наведаў кароль Рэчы Паспалітай Станіслаў Аўгуст Панятоўскі?

13 верасня 1784 года Слонім наведаў кароль Рэчы Паспалітай Станіслаў Аўгуст Панятоўскі (1732–1798). Яго візіт слонімцы віталі стрэламі з гармат. Кароль з вялікім задавальненнем агледзеў паркі, фантаны, замак Сапегі, прысутнічаў на адкрыцці канала Агінскага. Затым для яго быў дадзены канцэрт.

## 26. Ці існавала Слонімская губерня?

Слонімская губерня была ўтворана загадам імператрыцы Кацярыны II 14 снежня 1795 года пасля падзелу Рэчы Паспалітай і далучэння краю да Расійскай імперыі. Слонімская губерня складалася з зямель Слонімскага, Гарадзенскага, Берасцейскага, Наваградскага, Ваўкавыскага, Лідскага, Пружанскага і Кобрынскага паветаў. На тэрыторыі Слонімскай губерні пражывала 607 986 чалавек. Слонімская губерня праіснавала толькі адзін год. У снежні 1996 года Слонім становіцца павятовым у Літоўскай, а з верасня 1801 года — Гродзенскай губерні.

## 27. Дзе на тэрыторыі Слонімшчыны былі знойдзены самыя вялікія па колькасці манетныя скарбы?

У 1954 годзе вялікі скарб быў знойдзены ў вёсцы Баяры Слонімскага раёна каля вялікага каменя на размытай пасля дажджу дарозе. У гліняным гаршку знаходзілася вялікая колькасць манет, з якіх захавалася толькі 1622 вагою ў два з паловай кілаграмы. Усе яны захоўваюцца ў Гродзенскім дзяржаўным гісторыка-археалагічным музеі і датуюцца XVI–XVII стагоддзямі.

## 28. Хто такі Ян Канопка?

У 1812 годзе супраць расійскіх войскаў на баку Напалеона Банапарта выступалі пяць ліцвінскіх палкоў пяхоты і чатыры ўланскія палкі. Адным з напалеонаўскіх военачальнікаў і арганіза-

тарам славутай імператарскай гвардыі быў генерал Ян Канопка (1777–1815) з маёнтка Скоўдзічы Слонімскага павета.

Калі пачалося паўстанне 1794 года пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі, да свайго земляка далучыўся і Ян Канопка. Ён, разам з Касцюшкам, падпісаў Акт паўстання і на кракаўскім рынку даў прысягу на вернасць паўстанню. Ён, як і Тадэвуш Касцюшка, пакляўся змагацца за непарушнасць Рэчы Паспалітай, устанаўленне самаўладдзя народа і ўсеагульную свабоду.

Спачатку Ян Канопка вызначыўся пры абароне Варшавы, пасля чаго атрымаў званне лейтэнанта. Лейтэнант Канопка едзе на Літву і далучаецца да дывізіі Серакоўскага. У бітве пад Мацяёвіцамі паказаў сябе адважным воінам, хаця быў паранены ў руку. Восенню 1794 года за адвагу і мужнасць у баях Тадэвуш Касцюшка ўзнагародзіў яго пярсцёнкам з надпісам: «Айчына свайму абаронцу». Потым Ян Канопка ваяваў на іншых франтах і ў розных краінах, даслужыўся да генерала.

Шмат хто з беларусаў (ліцвінаў) спадзяваўся на Напалеона Банапарта, што менавіта ён дапаможа адрадзіць Вялікае Княства Літоўскае. З дазволу Напалеона Ян Канопка сфарміраваў Трэці ліцвінскі уланскі полк імператарскай гвардыі. Гэты полк падпарадкоўваўся непасрэдна Напалеону.



- *Ян Канопка*

У кастрычніку 1812 года каля роднага Слоніма Ян Канопка трапіў у палон. А праз пэўны час Трэці ліцвінскі ўланскі полк імператарскай гвардыі генерала Яна Канопкі як баявая адзінка спыніў сваё існаванне. А сам генерал быў арыштаваны і адпраўлены ў палон у Санкт-Пецярбург. У 1814 годзе Яна Канопку вызвалілі з палону, і ён як прыватная асоба прыехаў у Варшаву. Там ён памёр, але прасіў пахаваць яго на Слонімшчыне. Дзе пахавалі генерала — да сённяшніх дзён невядома.

## 29. Ці прымалі слонімцы ўдзел у паўстанні 1863–1864 гадоў?

Слонімшчына была адным з актыўнейшых асяродкаў паўстання 1863–1864 гадоў. Амаль з кожнай вёскі Слонімскага павета да паўстанцаў далучаліся людзі. З ваколіц толькі вёскі Плаўскія да паўстанцаў прымкнулі 62 добра ўзброеныя ахвотнікі.

Цывільным начальнікам Слонімскага павета быў доктар Уладзіслаў Сімановіч, вайсковым — Францішак Юндзіл, камандзірам паўстанцкага атрада — малады памешчык Ісідар Лукашэвіч.

Кастусь Каліноўскі сканцэнтраваў у лясах каля вёскі Мілавіды былога Слонімскага павета каля тысячы паўстанцаў пад агульным камандаваннем Ляндэра (Аляксандра Лянкевіча). 21 траўня адбылася вядомая бітва. Супраць паўстанцаў было выстаўлена некалькі рот рэгулярнай арміі, артылерыя і казакі. Некалькі гадзін царскія войскі атакавалі лагер паўстанцаў, але ўзяць не здолелі і адступілі, панёсшы вялікія страты. Ноччу паўстанцы пакінулі лагер.

## 30. Як загінуў Карл Масальскі?

Карл Масальскі быў адным з кіраўнікоў паўстанцкага атрада 1863 года. Ён з'яўляўся родным дзядзькам па маці заснавальніка Слонімскага краязнаўчага музея Язэпа Стаброўскага.

Сельскі стараста вёскі Азярніца Слонімскага павета Макарэвіч выдаў яго царскім карнікам, яны злавілі Карла Масальскага і прывезлі ў Слонім.

Закутага ў кайданы Карла Масальскага пасадзілі ў драўляную клетку, паставілі яе на возе і вазілі напаказ па ўсім горадзе. Наперадзе ішоў атрад узброеных салдат пад камандай воінскага начальніка. Барабаншчыкі білі ў барабаны. Жыхары Слоніма з жахам глядзелі на гэтае відовішча. Нарэшце Карла Масальскага правезлі па Студэнцкай вуліцы, павярнулі на Маставую вуліцу (цяпер яна носіць імя Янкі Купалы) і спыніліся каля моста праз раку Шчару.

На балоце стаяў закапаны слуп, да якога падвялі Карла Масальскага. Яго хацелі прывязаць да слупа і завязаць вочы, але ён адмовіўся. Па камандзе начальніка зноў грымнуў залп. Акрываўлены Карл Масальскі апусціўся на зямлю. Жаўнеры доўга не падыходзілі да паўстанца, баяліся. А потым, калі начальнік пачаў на іх крычаць, вывезлі і закапалі цела героя невядома дзе.

Так у 1863 годзе ў Слоніме загінуў камандзір паўстанцкага атрада Карл Ксаверавіч Масальскі, які змагаўся супраць царскага самадзяржаўя за волю нашага народа.

## 31. Хто такі Восіп Пшацлаўскі?

Восіп Пшацлаўскі (1799–1879) нарадзіўся ў Слонімскім павеце. Некаторы час жыў у бацькоў у маёнтку Львоўшчына. Пасля заканчэння Віленскага ўніверсітэта ён больш чым тры гады (1818–1822) працаваў сакратаром у свайго дзядзькі маршалка Слонімскага павета Ф. Л. Бронскага. Восіп Пшацлаўскі зрабіў выдатную кар'еру ў Пецярбургу. Працаваў у Міністэрстве ўнутраных спраў Расіі, у камісіі па будаўніцтве Ісаакіеўскага сабора, у Галоўным упраўленні цэнзуры. Ён быў таленавітым журналістам, перакладчыкам, мемуарыстам. У 1872 годзе выдаў мемуары пад назвай «Калейдаскоп успамінаў». Мемуары перавыдадзены выдавецтвам «Лімарыус» у Мінску ў 2012 годзе. Шмат старонак сваіх успамінаў аўтар прысвяціў роднай Слонімшчыне, вучобе ва ўніверсітэце і вялікаму паэту-аднакурсніку Адаму Міцкевічу.

## 32. Калі на Слонімшчыне з'явіліся першыя бібліятэкі?

Першыя бібліятэкі ў Слоніме з'явіліся ў XVI–XVII стагоддзях. Гэта былі прыватныя кнігазборы Сапегаў. Існавалі на Слонімшчыне і вялікія прыватныя бібліятэкі ў Агінскіх, Пуслоўскіх, Слізняў, Чапскіх. Шмат добрых і багатых бібліятэк было пры храмах, народных вучылішчах і школах.

## 33. Калі на Слонімшчыне з’явілася тэлефонная сетка?

17 снежня 1908 года Гродзенскі губернскі распарадчы камітэт прыняў пастанову аб правядзенні ў Слоніме і Слонімскім павеце тэлефоннай сеткі. Слонімскі павятовы маршалак 12 снежня 1911 года паведамляў, што тэлефонная сетка Слонімскага павета праведзена. І 22 лютага 1912 года пачалося яе дзеянне.

## 34. Калі ў Слоніме з’явіўся першы водаправод?

Са «Спіса старажытных помнікаў Слоніма» за 1838 год, які захоўваецца ў Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі ў Гродне, відаць, што водаправод у Слоніме існаваў яшчэ пры гетмане Міхалу Казіміру Агінскім. На плошчы перад развалінамі кухні гетмана Агінскага былі канавы, запоўненыя вадой, у якія падавалася праз свінцовыя трубы вада з сажалкі, якая знаходзілася на зямлі дамініканскага манастыра (з XIX стагоддзя). Тыя трубы, як пішацца ў дакуменце, яшчэ некалькі гадоў назад некаторымі жыхарамі Слоніма сакрэтна па кусках выкопваліся на сваіх агародах.

17 жніўня 1895 года Слонімская гарадская дума прыняла пастанову аб зацвярджэнні кантракта на будаўніцтва ў Слоніме водаправода. Кантракт прадугледжваў, што водаправод правядзе купец Гірша Куніца, якому давалася права на працягу 40 гадоў браць плату па капейцы за вядро вады. Водаправод вёўся з гор, крынічная вада падавалася праз чыгунныя трубы.

## 35. Калі ў Слоніме з’явілася першае электрычнае асвятленне?

На пасяджэнні Слонімскай гарадской думы ад 10 мая 1914 года была прынята пастанова правесці ў Слоніме электрычнае асвятленне. Да таго часу асвятленне вуліц Слоніма вялося газанапальнымі ліхтарамі і лямпамі.

## 36. Як узніклі Жыровічы?

Першыя пісьмовыя згадкі пра Жыровічы датуюцца 1493–1495 гадамі, калі вялікі князь Казімір прадаў паселішча падскарбію вялікаму Аляксандру. Солтану. Новы ўладальнік збудаваў царкву на месцы, дзе, паводле легенды, у 1470 годзе з’явіўся абраз Маці Божай. Каля царквы пачало фарміравацца паселішча.

Паводле адміністрацыйна-тэрытарыяльнай рэформы ў 1565–1566 гадах Жыровічы ўвайшлі ў склад Слонімскага павета, дзе вельмі



• *Жыровічы. Пачатак XIX стагоддзя. Малюнак невядомага аўтара*

шырока пачалі праводзіцца кірмашы. Пад 1587 годам упершыню згадваецца Жыровіцкі манастыр. У 1624 годзе Жыровічы атрымалі статус мястэчка і кароль і вялікі князь Ян Казімір надаў паселішчу магдэбургскае права (самакіраванне).

## 37. Якія паданні існуюць пра Жыровічы?

Пра Жыровічы існуе некалькі паданняў. Адно паданне распавядае, што на месцы сённяшніх Жыровічаў была вялікая пушча. Гэтай пушчай валодаў нейкі паганец па прозвішчу Жыр. Ён лавіў на лясных сцежках і дарогах людзей і браў іх у палон. У палоне яны будавалі хаты і жылі пад наглядам паганца. Шмат ім было злоўлена люду. Але Жыр хутка памёр. І людзі сталі вольнымі, а мястэчка назвалі Жыровічы.

Другое паданне нагадвае, што калісьці даўным-даўно на месцы манастыра быў дрымучы лес. Як і ўсё наваколле вёскі Жыровічы, належаў ён падскарбію Вялікага Княства Літоўскага Аляксандру Солтану. Аднойчы летнім днём 1470 года мясцовыя жыхары пасвілі ў лесе кароў. Непрыкметна зайшлі яны туды, дзе ніколі раней не былі. І ў лясным паўзмроку заўважылі ў галінах лясной грушы-дзічкі нязвыклае дзіўнае святло. Яны спусціліся з пагорка на бераг ручая і здзівіліся яшчэ больш. На дрэве, у зялёналістым атачэнні, як у шатах, цудадзейным святлом праменіўся абраз Божай Маці з яе Святым Сынам на правай руцэ. Пастухі знялі абраз з дрэва. Быў ён выразаны з каштоўнага каменю яшмы, невялікі, змяшчаўся на далоні рукі.

Усцешаныя незвычайнай знаходкай, пастухі аднеслі абраз Солтану. Той не надаў значэння расказам пастухоў і схаваў яго ў куфэрак. Калі ж на наступны дзень захацеў паказаць лясную

знаходку гасцям, абраза ў куфэрку не аказалася. Не адчуваючы нічога благога да служылых людзей, гаспадар маёнтка, аднак, моцна здзівіўся гэткаму здарэнню.

А праз некалькі дзён пастухі знайшлі зніклы абраз у тым самым лесе, над тым самым ручаём і на той жа дзікай грушы. Яны зноў знялі яго і зноў перадалі свайму гаспадару. Аляксандр Солтан, усвядоміўшы незвычайнасць падзеі, сам пайшоў на месца з'яўлення абраза. Там ён даў абяцанне збудаваць у гонар дзівоснай праявы царкву. Неўзабаве тут паўстаў драўляны праваслаўны храм, галоўны алтар якога знаходзіўся акурат на месцы, дзе расла лясная груша.

## 38. Што вы ведаеце пра Жыровіцкае Евангелле?

Да сярэдзіны XIX стагоддзя ў Жыровіцкім манастыры зберагалася Жыровіцкае Евангелле, вядомае таксама пад назвай «Евангелле Сапегі». Яно было створана клопатамі Льва Сапегі (1557–1633) — канцлера Вялікага Княства Літоўскага. Леў Сапега падараваў Жыровіцкае Евангелле Жыровічам 22 жніўня 1616 года. Падарунак быў уручаны на дзень асвячэння Успенскага сабора.

Рукапіс Жыровіцкага Евангелля складаецца з 404 аркушаў, вельмі багата ўпрыгожаны залатымі застаўкамі, мініяцюрамі, арнаментамі. Адчуваецца ўплыў візантыйскай мастацкай традыцыі. На 376-м і 377-м аркушах канцлер Леў Сапега зрабіў запіс аб ахвяраванні манастыру вялікай часткі яго Шылавіцкага маёнтка (па левым беразе Шчары), багатай царкоўнай рызы, срэбнай чашы і дыскаса, царкоўнага адзення. Надпіс быў зроблены на беларускай мове таго часу.

Сёння Жыровіцкае Евангелле зберагаецца ў Навуковай бібліятэцы Акадэміі навук Літвы.

## 39. Што сёння ўяўляе сабой Жыровіцкі манастыр?

Жыровіцкі манастыр — гэта найбуйнейшы архітэктурны комплекс не толькі на Слонімшчыне, але і ў Беларусі, які сфарміраваўся ў 1672–1828 гадах. Манастыр уключае Успенскі сабор (заснаваны ў 1613 годзе), Богаяўленскую царкву (пабудавана ў 1769 годзе), Крыжаўзвіжанскую царкву (пабудавана ў 1769 годзе), семінарыю, акадэмію, розныя гаспадарчыя пабудовы.

## 40. Што вы ведаеце пра палац Слізняў у Новадзявяткавічах?

У сярэдзіне XIX стагоддзя Альфрэд Слізень узводзіць у вёсцы Новадзявяткавічы магутны замак «на англійскі густ». Будынак не захаваўся, але да нас дайшла акварэль Напалеона Орды 1860-х гадоў, дзе палац намаляваны з тыльнага боку. Велічны трохпавярховы будынак накрыты «старапольскім» мансардавым дахам, з тарца ўзвышаецца прамавугольная ў сячэнні вежа з навіслымі па кутах круглымі пінаклямі і зубчастым парапетам. На вежы меўся



• *Палац Слізняў на малюнку Напалеона Орды*

флагшток, вымпел якога сведчыў аб прысутнасці ў палацы ўладальніка. Супрацьлеглы тарэц будынка завяршылі дзве двух’ярусныя вуглавыя вежы з зубчастымі парапетамі. Прыгонную сярэднявечную суровасць будынка некалькі змякчала прыбудаваная з тарцовага боку зашклёная аранжарэя. Перад палацам быў парк рэгулярнай планіроўкі, які велічнай ліпавай алеяй злучаўся з касцёлам. У палацы была найбагацейшая бібліятэка, кнігі ў якой збіралі на працягу пяці стагоддзяў. Палац знік у 1944 годзе: яго ўзарвалі партызаны.

## 41. Калі ў Слоніме было заснавана добраахвотнае пажарнае таварыства?

У 1897 годзе ў Слоніме было заснавана добраахвотнае пажарнае таварыства. Яно мела дзве аўтапомпы, вартавую вежу і адзіны ў горадзе духавы аркестр. Адзін з музыкантаў на трубе іграў на вартавой пажарнай вежы два разы ў дзень — у 8 і 20 гадзін — паланэз Агінскага «Развітанне з Радзімай».

## 42. Хто такі Міхал Валовіч?

Міхал Валовіч (1806–1833) нарадзіўся ў маёнтку Парэчча на Слонімшчыне ў сям’і слонімскага падкаморнага са старадаўняга беларускага шляхецкага роду Валовічаў. Скончыў Віленскі ўніверсітэт, быў блізкі да тайных таварыстваў філаматаў і філарэтаў. Міхал Валовіч прымаў удзел у паўстанні 1830–1831 гадоў. Пасля разгрому паўстання эміграваў у Францыю. Праз два

гады зноў вярнуўся на Беларусь з мэтай узняць паўстанне супраць рускага царызму і абвясціць Беларусь дэмакратычнай рэспублікай.

У 1833 годзе ён арганізаваў на Слонімшчыне паўстанцкі атрад з некалькіх дзясяткаў чалавек. Супраць яго губернатар Гарадзенскай губерні Мураўёў-вешальнік кінуў 10 тысяч расійскіх салдат. У траўні атрад Валовіча быў разбіты, а кіраўнік арыштаваны. Яго прывезлі ў Гародню, і першы допыт вёў сам Мураўёў, які чакаў ад Валовіча сенсацыйных звестак пра свой атрад. Але гэтага не адбылося. Змагар за нашу Бацькаўшчыну быў пакараны смерцю.



• *Міхал Валовіч*

## 43. Колькі слонімцаў выгналі ў бежанства рускія казакі перад Першай сусветнай вайной?

Бежанства — трагічная старонка беларускага народа. Слонімцы, як і многія жыхары Заходняй Беларусі, падаваліся ў бежанства перад набліжэннем фронту, але найчасцей пад прымусам імперскіх уладаў. Выязджалі сем'ямі, на падводы грузілі хатні ды гаспадарчы скарб — усё, што маглі ўзяць. Тысячы слонімцаў пакінулі свае месцы, блукаючы па далёкіх губернях Расіі. За кошт казны былі эвакуіраваны толькі дзяржаўныя служачыя і афіцэры расійскіх палкоў. Слонімскі павет напалавіну стаў пустым. А ў Альбярціне засталося толькі 10 сем'яў. Дамоў з бежанства вярнулася менш за палавіну слонімцаў. Астатнія загінулі ад голаду і хваробаў.

## 44. Якія прадпрыемствы дзейнічалі ў Слоніме напачатку XX стагоддзя?

Напачатку XX стагоддзя афіцыйная статыстыка налічвала ў Слоніме 36 прамысловых прадпрыемстваў, на якіх працавалі каля 700 рабочых. Да ліку буйнейшых належалі запалкавая фабрыка, два лесапільныя заводы, дзве фабрыкі драўляных штор. Рамяством у Слоніме займаліся амаль 800 чалавек, з іх наёмнымі рабочымі былі 250 чалавек.

## 45. Ці ведаеце вы пра ўсходнюю місію айцоў езуітаў у Альбярціне ў 1924–1942 гадах?

24 ліпеня 1924 года віленскі біскуп Юры Матулевіч выдаў дэкрэт аб утварэнні Альбярцінскай парафіі славяна-візантыйскага абраду.

У траўні 1924 года ў Альбярціне з'явіліся першыя два айцы езуіты — а. Караль Буржуа і а. Міхал Маліноўскі, якія 4 лістапада заклалі пачатак усходняй місіі айцоў езуітаў сярод беларусаў.

Уладзіслаў Пуслоўскі, якому ў той час належаў Альбярцін, падтрымаў працу айцоў езуітаў



- *Айцы езуіты ўсходняга абраду ў Альбярціне, канец 1920-х гадоў. У цэнтры з белай барадой Уладзімір Пянткевіч*

і ахвяраваў на гэтыя мэты свой будынак. Ён быў занядбаны, але езуіты абяцалі навесці там парадак. Побач знаходзілася капліčка лацінскага абраду.

У 1925 годзе сакратар генерала ордэна езуітаў Уладзімір Пянткевіч стаў протаігуменам адкрытага там манастыра.

Альбярцін хутка атрымаў статус першага ў Заходняй Беларусі прыхода ўсходнеславянскага абраду, а ў 1926 годзе місія была зацверджана як навіцыят (установа для падрыхтоўкі да ўступлення ў сябры манаскага ордэна), які заснаваў свой філіял у вёсцы Сынковічы, а Сынковіцкая крэпасць-царква стала цэнтрам прыхода ўсходнеславянскага абраду. У 1927–1931 гадах у Альбярцін прыбылі новыя групы навіцыяў, з ліку мясцовай беларускай і польскай моладзі; у канцы 1932 года тут прайшлі падрыхтоўку больш за 60 святароў, а ў манастыры ў Альбярціне і філіяле ў Сынковічах служылі 25 місіянераў.

У 1942 годзе немцы спынілі езуіцкую дзейнасць у Альбярціне.

## 46. Хто такі Кандрат Лейка?

Кандрат Лейка (1860–1921) — беларускі празаік, паэт, драматург, педагог, пачынальнік беларускай літаратуры. З 1911 года друкаваўся ў газеце «Наша ніва». Выдаў п’есу для лялечнага тэатра «Снатворны мак» (Вільня, 1912). У 2015 годзе Сяргей Чыгрын падрыхтаваў і выдаў творы Кандрата Лейкі асобнай кніжкай пад назвай «Пан Трудоўскі». Большую



• *Кандрат Лейка*

частку свайго жыцця пражыў на Украіне. Памёр і пахаваны ў горадзе Здалбунаў Ровенскай вобласці. Нарадзіўся ў вёсцы Збочна.

## 47. Калі на Слонімшчыне ўпершыню адкрыліся народныя вучылішчы?

У XIX стагоддзі сярод сялян Слонімскага павета назіралася масавая непісьменнасць. Дзеля ліквідацыі гэтай негатыўнай з'явы пачалі стварацца народныя вучылішчы.

Першае народнае вучылішча на Слонімшчыне было адкрыта ў 1852 годзе. А ў 1864 годзе ў Слонімскім павеце іх ужо налічвалася 24.

## 48. Якія запалкавыя фабрыкі дзейнічалі ў XX стагоддзі ў Слоніме?

У першай палове XX стагоддзя на Слонімшчыне дзейнічалі тры прыватныя запалкавыя фабрыкі. Гэта паравая запалкавая фабрыка «Край» Дубінбаўма і Штэйберга, фабрыка запалак «Шчара» Хавіноўскага і Маркуса ў Альбярціне і запалкавая фабрыка «Электра».




• *Этыкетка запалкавай фабрыкі «Край»*

## 49. Якімі кірмашамі ў мінулых стагоддзях славіўся Слонім?

Дакументы па гісторыі гандлю ў Слоніме апавядаюць, што ў старажытнасці ў горадзе існавалі два кірмашы — Траецкі і Раждзественскі. У XIX стагоддзі застаўся толькі адзін кірмаш — Траецкі. Ён збіраўся кожны год у дзень Святой Тройцы.

## 50. Якія гімназіі ў Слоніме дзейнічалі напачатку XX стагоддзя?

Слонімскія гімназіі дзейнічалі ў 1906–1918 гадах. Падпарадкоўваліся Віленскай навучальнай акрузе. Існавала Слонімская жаночая гімназія, якая была заснавана 24 верасня 1910 года. Мела падрыхтоўчы і сем асноўных класаў. Спыніла дзейнасць у 1918 годзе. А таксама была жаночая прыватная яўрэйская прагімназія Хаі Орман-Юдкоўскай, ператворана ў 1906 годзе з прыватнага вучылішча. Мела падрыхтоўчы і чатыры асноўныя класы. Утрымлівалася за кошт платы за навучанне. У 1915 годзе ў ёй вучылася 121 дзяўчына. Спыніла дзейнасць восенню 1915 года.

## 51. Якая легенда існуе пра рэчку Грыўду?

Вёска Міжэвічы знаходзіцца на беразе ракі Грыўда. Легенда расказвае, што некалі злыя людзі праклялі дваіх закаханых маладых людзей. Аднойчы, калі маладыя ехалі на конях, яны нечакана адчулі, што з коньмі нешта адбываецца. І раптам коней не стала — яны ператварыліся ў два камяні, з-пад якіх пэўны час выцякаў ручаёк як сімвал вялікага кахання. Вада струменіла, цякла

па камянях, уздыхала. І ў гэтым сумным дыханні было чуваць: «Крыўдна, крыўдна, крыўдна...» Але не ўсе разумелі першыя гукі слоў, нават не ўсе іх дачувалі, таму рэчку назвалі Грыўда.

## 52. Калі ў Слонім увайшлі кайзераўскія войскі?

30 жніўня 1915 года ў Слонім увайшлі кайзераўскія войскі. Тры гады Слонімшчына была пад немцамі. Ад баявых дзеянняў у Слоніме найбольш пацярпела старажытнае Замосце.

## 53. Хто такія браты Хлябцэвічы?

Браты Яўген (1884–1953) і Уладзімір (1894–1917) Хлябцэвічы былі родам з вёскі Жыровічы. Яўген Хлябцэвіч — беларускі нацыянальны дзеяч, бібліятэказнавец, бібліёграф, літаратуразнавец, сябра Янкі Купалы і Цёткі. Уладзімір Хлябцэвіч — удзельнік беларускага літаратурна-грамадскага руху пачатку XX стагоддзя. Загінуў у Петраградзе падчас лютаўскай рэвалюцыі.



• *Анатоль Крывенка. Партрэт Яўгена Хлябцэвіча*

## 54. Што вам вядома пра Вялікакракоцкую сельскую бібліятэку імя Янкі Купалы?

У 1927 годзе ў вёсцы Вялікая Кракотка пры гуртку Таварыства беларускай школы вясковая моладзь заснавала бібліятэку-чытальню, якую назвалі імем народнага паэта Беларусі Янкі Купалы. Гэта была першая ўстанова культуры рэспублікі, якой было нададзена імя песняра.



• *Чытачы Купалаўскай бібліятэкі ў вёсцы Вялікая Кракотка Слонімскага раёна, 1965 год*

Польская паліцыя перашкаджала дзейнасці беларускіх грамадскіх арганізацый. Праіснаваўшы некалькі гадоў, бібліятэка-чытальня імя Янкі Купалы ў Вялікай Кракотцы была ліквідавана паліцыяй, а кнігі канфіскаваны.

У верасні 1939 года слаўную Купалаўскую бібліятэку ў вёсцы Вялікая Кракотка зноў аднавілі, але праз некаторы час яе дзейнасць была спынена ўжо гітлераўскім нашэсцем.

Дата новага нараджэння Вялікакракоцкай бібліятэкі — жнівень 1946 года. Аднойчы ў вёску завітаў супрацоўнік слонімскай раённай газеты «Вольная праца» паэт Анатоль Іверс. Ён сабраў калгасны сход, на якім было аднадушна выра-

шана прызначыць загадчыкам бібліятэкі імя Янкі Купалы інваліда вайны Аляксандра Жыткевіча. Трыццаць гадоў адпрацаваў Аляксандр Іванавіч, рабіў усё, каб яго родная бібліятэка апраўдала імя вялікага Купалы.

Вялікую дапамогу ў рабоце бібліятэкі аказала і жонка Янкі Купалы Уладзіслава Францаўна Луцэвіч. Жывучы ў Мінску, яна амаль кожны месяц прысылала ў бібліятэку пісьмы, бандэролі і пасылкі з кнігамі і альбомамі. У 1951 годзе Уладзіслава Францаўна ўпершыню наведала Вялікую Кракотку, а ў 1957 годзе прымала ўдзел у святкаванні 30-годдзя бібліятэкі

У 2005 годзе бібліятэка ў Вялікай Кракотцы набыла новы статус і стала бібліятэкай-музеем імя Янкі Купалы. А ў 2007 годзе яна адзначыла сваё 80-годдзе. Але гэта быў апошні юбілей бібліятэкі ў Кракотцы. У 2008 годзе яе закрылі, а каштоўныя кнігі і фотаздымкі перадалі ў іншыя бібліятэкі Слонімшчыны, а таксама ў Сялявіцкую сельскую бібліятэку.

## 55. Калі ўзнік Альбярцін?

Альбярцін — як памешчыцкая сядзіба, так і сама назва — з’явіўся толькі ў сярэдзіне XIX стагоддзя. Да гэтага часу там быў фальварак, які адносіўся да Вялікіх Шылавічаў, дзе знаходзіўся першапачатковы двор.

Пра сам Альбярцін захаваліся звесткі, што так назваў свой маёнтак Войцех Пуслоўскі ў гонар сына Альберта. Але сына з імем Альберт у Пуслоўскага не было.




- *Фірменны знак Альбярцінскай суконнай фабрыкі*

Дзякуючы Войцеху Пуслоўскаму, у першай палове XIX стагоддзя ў маёнтку Альбярцін былі пабудаваны палац, флігель, стайня, закладзены парк, было адкрыта некалькі прадпрыемстваў.

## 56. Якую шкоду Альбярціну нанеслі войны?

Усе войны апошніх двух стагоддзяў не міналі Альбярцін. 19 ліпеня 1812 года праз Альбярцін адступала Другая руская армія пад кіраўніцтвам Пятра Баграціёна. Пасля яе адступлення ў палацы Пуслоўскіх месціўся штаб 12-га аўстрыйскага корпуса генерала Шварцэнберга. Войцех Пуслоўскі і яго сям'я падтрымлівалі французскую армію Напалеона Банапарта, які паабяцаў аднавіць Вялікае Княства Літоўскае.

Самымі цяжкімі для Уладзіслава Пуслоўскага і Альбярціна былі Першая сусветная і польска-савецкая войны. Першая сусветная вайна прымусіла Пуслоўскіх вывезці найбольш каштоўныя рэчы ў Маскву. Для гэтага спатрэбілася чатыры з паловай вагоны. Пасля вайны з вывезеных вагонаў назад удалося вярнуць толькі паўвагона, астатнія бясследна зніклі.

## 57. Калі Пуслоўскія назаўсёды пакінулі Альбярцін?

У самым пачатку верасня 1939 года Уладзіслаў Пуслоўскі з сям'ёй назаўсёды пакінуў Альбярцін. Месцам жыхарства ён выбраў Парыж. У пажылым веку (пражыў 93 гады) спадар Пуслоўскі захапляўся гістарычнымі даследаваннямі. Ён быў жанаты з Хрысцінай Марыяй Пігнатэлі д'Арагон, прадстаўніцай італьянска-іспанскага княжацкага роду. Яны мелі сыноў Францішка і Ксаверыя і

дачку Марыю Хрысціну. Францішак з 1939 года жыў у ЗША, працаваў у Польскім інстытуце ў Нью-Ёрку, а Ксаверый пасяліўся ў Іспаніі. Цяпер нашчадкі Пуслоўскіх жывуць у многіх краінах свету.



• *Альбярцінскі леў*

## 58. Якія знакамітыя людзі нарадзіліся ў вёсцы Мяльканавічы?

Вёска Мяльканавічы з'яўляецца радзімай беларускага літаратуразнаўца, перакладчыка, кандыдата філалагічных навук Уладзіміра Сакалоўскага (1930–2013), кампазітара, музыканта, педагога, рэгента Антона Валынчыка (1896–1985), доктара гістарычных навук, прафесара Васіля Мялешкі (1921–2004).

## 59. Ці хадзілі некалі па Шчары баржы і катары?

Некалі па Шчары сплаўлялі лес, перавозілася скура, збожжа, сукно, будаўнічыя матэрыялы. Напрыклад, у 1857 годзе на слонімскай прыстані грузіліся 15 суднаў і 280 плытоў. Уніз па цячэнні баржы ішлі сваім ходам, а вось уверх іх спачатку цягнулі людзі, а потым коні. Напачатку XX стагоддзя па Шчары плавалі параходы. А ў 1930-х гадах да прыстані Слонім былі прыпісаны два дызельныя катары — «Шчара» і «Тадэвуш Рэйтан». Усе службовыя памяшканні і прыстань знаходзіліся на Малым канале Агінскага на месцы цяперашняга гарадскога парку.

Вясною 1947 года па Шчары хадзілі шэсць катараў, некалькі трафейных баржаў. А дзесьці ў канцы 1950-х гадоў у Слоніме працавала праектная брыгада з Масквы па пабудове Чарнаморска-Балтыйскага канала, які павінен быў праходзіць праз Слонім. Але ён так і не стаў портам.

## 60. Калі была збудавана капліца святога Дамініка?

Капліца святога Дамініка знаходзіцца ў Слоніме на перакрыжаванні вуліц Пушкіна і Міцкевіча. Яна была збудавана ў 1745 годзе ў стылі позняга барока. У XVIII стагоддзі пры ўездзе ў Слонім стаялі некалі дзве капліцы, якія з'яўляліся чымсьці накшталт пагранічнага знака. Цяпер захавалася толькі капліца святога Дамініка.



- *Каля вакзала і чыгункі ў Слоніме, пачатак XX стагоддзя*

## 61. Калі праз Слонім прайшла першая лінія чыгункі?

У 1886 годзе ўпершыню праз Слонім прайшла лінія чыгункі Баранавічы–Беласток, пачала дзейнічаць чыгуначная станцыя.

## 62. Хто такі Сяргей Дарожны?

Сяргей Дарожны (Сяргей Серада; 1909–1943) — беларускі паэт. Скончыў Белдзяржуніверсітэт, быў сябрам літаратурных арганізацый «Маладняк» і «Узвышша». Выдаў зборнікі паэзіі «Звон вясны» (у сааўтарстве з І. Плаўнікам), «Васількова россып» (1929), «Пракосы на памяць» (1932). У 1932 годзе быў рэпрэсаваны і памёр на будаўніцтве горада Камсамольск-на-Амуры (Расія). Нарадзіўся ў Слоніме.



• *Сяргей Дарожны*

## 63. Што вы ведаеце пра Янку Бялькевіча?

Янка Бялькевіч (1883–1960) — беларускі мовазнавец і педагог. Скончыў Белдзяржуніверсітэт. Працаваў дырэктарам Мсціслаўскага педтэхнікума, быў навуковым супрацоўнікам Інбелкульта і Інстытута мовазнаўства АН БССР. Вывучаў дыялекталогію і культуру беларускай літаратурнай мовы. Быў рэпрэсаваны. Да канца жыцця не атрымаў дазволу вярнуцца на Радзіму. Рэабілітаваны ў 1960 годзе. Пасля смерці выйшаў з друку яго «Краёвы слоўнік усходняй Магілёўшчыны» (1970). Нарадзіўся ў вёсцы Варонічы.



• *Янка Бялькевіч*

## 64. Калі з'явілася першая газета і якія выданні ў Слоніме выходзілі ў першай палове XX стагоддзя?

Першая газета ў Слоніме надрукавана на нямецкай мове ў 1916 годзе. Называлася яна «Slonimer Wort» (Слонімскае слова) і з'яўлялася друкаваным органам яўрэйскай абшчыны. У 1924–1926 гадах па суботах у Слоніме выходзіла газета «Echo Słonimskie» (Слонімскае рэха). У 1938 годзе выдавалася на польскай мове «Gazeta Słonimska» (Слонімская газета). З 1926 года на Слонімшчыне выдавалася шмат газет-аднадзёнак з рознымі загалоўкамі. У 1929 годзе слонімцы трымалі ў руках газету «Slonimer Lebn» (Слонімскае жыццё). У 1933 годзе Слонімская гімназія імя Тадэвуша Касцюшкі выдавала часопіс на польскай мове «Рэха школьных муроў», Жыровіцкая сельскагаспадарчая школа — часопіс «Жыравяк», уніяты ў Альбярціне — часопіс «Да злучэння» і іншыя. 26 верасня 1939 года выйшаў першы нумар раённай газеты «Вольная праца», якую рэдагаваў Іосіф Чарняўскі.

## 65. Колькі гурткоў Грамады і ТБШ дзейнічала на Слонімшчыне ў 1920–1930-х гадах?

У Заходняй Беларусі на тэрыторыі Слонімскага павета дзейнічалі 167 гурткоў Беларускай сялянска-работніцкай Грамады (БСРГ), куды ўваходзіла больш за 15 тысяч чалавек. Гурткоў Таварыства беларускай школы (ТБШ) налічвалася 54. Сябры ТБШ адкрывалі народныя дамы, хаты-чытальні, бібліятэкі, беларускія школы, ставілі спектаклі па п'есах беларускіх драматургаў.

## 66. Калі Слонім наведаў народны паэт Беларусі Янка Купала?

Пасля Народнага сходу Заходняй Беларусі Янка Купала 14 лістапада 1939 года вяртаўся з Беластока ў Мінск. Па дарозе ён заехаў у Слонім, каб сустрэцца са слонімскім паэтам і калекцыянерам Гальяшом Леўчыкам. Сустрэча адбылася ў хатцы Гальяша Леўчыка на вуліцы 3 Мая (цяпер гэта вуліца Чырвонаармейская). Потым госць запрасіў Леўчыка разам паабедаць у першым беларускім рэстаране. Падчас абеду яны шмат гутарылі, а потым Янка Купала сеў у свой аўтамабіль «шэўрале» і паехаў на Мінск.



• *Янка Купала*

## 67. Якія польскія пяхотныя палкі дыслацыраваліся ў Слоніме перад Другой сусветнай вайной?

У кастрычніку 1922 года пачалі дыслакацыю 79-ы пяхотны полк імя Льва Сапегі і 80-ы полк наваградскіх стралкоў. Вайскоўцы раскватараваліся ў былых царскіх казармах, якія былі пабудаваныя разам з царквой у 1884–1886 гадах для царскага Шуйскага пяхотнага палка. 79-ы і 80-ы пяхотныя палкі прастаялі ў Слоніме да верасня 1939 года. Цяпер у царскіх казармах размяшчаюцца вайскоўцы Слонімскай гвардзейскай 11-й механізаванай брыгады.



## 68. Хто такі Тодар Данілюк?


• *Тодар Данілюк*

Тодар Данілюк (1877–1960) — беларускі рэлігійны і вайсковы дзеяч, удзельнік Слуцкага паўстання 1920 года, адзін са стваральнікаў Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы на эміграцыі. Нарадзіўся ў вёсцы Сурынка Слонімскага павета. Памёр у ЗША.

## 69. Ці існавалі слонімскія падзямеллі?

Падземныя сховішчы і падзямеллі існавалі пад большасцю слонімскіх храмаў, кляштароў з XVII–XVIII стагоддзяў. Падземныя тунэлі звязвалі некаторыя з іх паміж сабой і з замкам. Таксама былі таемныя выхады на выпадак небяспекі, якія выводзілі, напрыклад, на бераг Шчары. Падчас Другой сусветнай вайны падземныя тунэлі выкарыстоўвала падполле слонімскага гета. Да сённяшняга часу захаваліся толькі фрагменты тунэляў у розных частках горада Слоніма.

## 70. Хто такі Канстанцін Пушкарэвіч?

Канстанцін Пушкарэвіч (1890–1942) — філолаг і літаратуразнавец, доктар філалагічных навук, прафесар. Супрацоўнік Інстытута этнаграфіі АН СССР. Аўтар прац па літаратуры, гісторыі, мовах

і культуры славянскіх народаў. Пераклаў на рускую мову аповесць Змітрака Бядулі «Салавей» і зборнік апавяданняў Цішкі Гартнага «Трэскі на хвалях». Нарадзіўся ў Слоніме.

## 71. Якія знакамітыя людзі нарадзіліся ў вёсцы Чамяры?

Вёска Чамяры з'яўляецца радзімай беларускага палітыка, педагога, публіцыста Максіма Бурсевіча (1890–1937), дактароў медыцынскіх навук Андрэя (1896–1970) і Ілы (1905–1973) Пракапчукоў, доктара гістарычных навук Міхаіла Міско (1904–1972), журналіста і пісьменніка Якуба Міско (1911–1981), паэта і публіцыста Анатоля Іверса (1912–1999), кандыдата мастацтвазнаўства, культуролага Сцяпана Міско (1930–2010), кандыдата філалагічных навук, паэта Івана Чыгрына (1931–2006), народнага мастака Беларусі, скульптара Івана Міско, даследчыка беларускага тэатра Уладзіміра Іскрыка, паэта Ігара Бурсевіча, Героя Сацыялістычнай Працы, будаўніка Яўгена Багданчука, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі, доктара сельскагаспадарчых навук Андрэя Міско і іншых асоб.

## 72. Што ўяўляла сабой ахова здароўя на Слонімшчыне ў 1920–1939 гадах?

Падчас знаходжання Слонімшчыны пад Польшчай у Слоніме дзейнічалі дзяржаўныя, муніцыпальныя, прыватныя, нацыянальныя, ваенныя медыцынскія ўстановы. Функцыянаваў Цэнтр

здароўя, які быў адкрыты ў 1926 годзе. Адметнай рысай арганізацыі медыцынскай дапамогі насельніцтву Слонімшчыны з'яўлялася наяўнасць страхавой медыцыны. У 1926 годзе ў горадзе быў адкрыты філіял Баранавіцкай страхавой касы. У 1933 годзе ў ім налічвалася 2700, а ў 1936 годзе — 2800 сяброў. У 1926 годзе ў Слоніме налічвалася 20 урачоў, працавалі 3 аптэкі.

## 73. Якія фатографы жылі ў Слоніме да Другой сусветнай вайны?

Да Другой сусветнай вайны ў Слоніме жылі фатографы Б. Вайнштэйн, Б. Натковіч, Г. Браўн, О. Дзярэчынскі, Муркес, Я. Салавейчык, Т. Носек-Лейба, Ю. Шыманчык. Яны мелі свае фотамайстэрні. Часта ў Слоніме бывалі фатографы Ян Булгак і Раман Вішняк.

## 74. Калі гітлераўскія войскі акупавалі Слонім?

Гітлераўская Германія напала на Савецкі Саюз раніцай 22 чэрвеня 1941 года. У гэты дзень нямецкія самалёты ўжо лёталі над Слонімшчынай і бамбілі аэрадром каля вёскі Дзеравянчыцы. А 24–25 чэрвеня немцы ўвайшлі ў Слонім.

## 75. Колькі мірных жыхароў загінула на Слонімшчыне ў гады Другой сусветнай вайны?

На Слонімшчыне падчас Другой сусветнай вайны загінула больш за 45 тысяч жыхароў. Толькі на Пятралевіцкай гары каля Слоніма пахаваны больш за 10 100 чалавек. У 1964 годзе на ўшанаванне памяці ахвяр фашызму пастаўлены 12-метровы абеліск.

## 76. Калі Слонім быў вызвалены ад гітлераўскіх войскаў?

Слонім ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў вызваліў Першы Беларускі фронт пад камандаваннем Маршала Савецкага Саюза Канстанціна Ракасоўскага 10 ліпеня 1944 года.



• *Брацкая магіла савецкіх воінаў і партызан у Слоніме на вуліцы Пушкіна*

## 77. Калі быў створаны Слонімскі раён?

Слонімскі раён быў створаны 15 студзеня 1940 года. Ён увайшоў у склад Баранавіцкай вобласці. А 8 студзеня 1954 года Слонімскі раён далучылі да Гродзенскай вобласці.

## 78. Якую шкоду Слонімшчыне прынеслі сталінскія рэпрэсіі ў 1940–1953 гадах?

Паводле слонімскай кнігі «Памяць», да вайны і пасля вайны рэпрэсавалі каля 300 чалавек са Слоніма, але гэтую лічбу трэба павялічыць у 10 разоў, бо з кожнай слонімскай вёскі забіралі на Калыму і Варкуту па 20–50 чалавек. Арышты адбываліся штодзённа. Вёска Басіны Дзеравянчыцкага сельсавета вельмі пацярпела ад вайны, а пасля рэпрэсій увогуле перастала існаваць. Больш за палову жыхароў вёскі Заводны Лес таксама былі вывезены.

Многіх арыштаваных у 1930–1953 гадах расстралялі, а іншыя загінулі ў месцах зняволення. Лёс тысячы нашых землякоў невядомы да сённяшніх дзён. Беспадстаўна былі абвінавачаны і расстраляны ці загінулі з голаду і холаду палітык, педагог і вучоны з Чамяроў Максім Бурсевіч. У 1930 годзе рэпрэсавалі вядомага беларускага педагога, мовазнаўца, інспектара Наркамата асветы БССР Янку Бялькевіча з вёскі Варонічы. Беларускі паэт Сяргей Дарожны і яўрэйскі крытык і публіцыст Хацкель Дунец нарадзіліся ў Слоніме. У 1936 годзе яны таксама трапілі ў хвалю рэпрэсій. Фізік з вёскі Хадзявічы Мітрафан Тамільчык пасля заканчэння Белдзяржуніверсітэта

працаваў выкладчыкам у Беларускім політэхнічным інстытуце. У 1938 годзе яго арыштавалі і расстралялі.

Сталінскія рэпрэсіі не абмінулі і Чамяры, дзе былі рэпрэсаваны некалькі дзясяткаў чалавек.

Моцна пацярпелі і прайшлі сталінскія вязніцы ў 1940–1950-х гадах удзельнікі слонімскай вучнёўскай антысавецкай арганізацыі «Польскі падпольны камітэт» Юры Татарэўскі, Зэтэк Жамойда і іншыя.

У полымі сталінскіх рэпрэсій загінула шмат слонімскіх святароў розных рэлігійных канфесій. У 1937 годзе расстралялі наглядчыка Жыровіцкага духоўнага вучылішча Пятра Палянскага і настаяцеля Жыровіцкага манастыра айца Ціхана Шарапава. Архімандрыт Серафім Шахмуць быў насельнікам Свята-Успенскага Жыровіцкага манастыра. Яго арыштавалі ў верасні 1944 года за тое, што ён у гады вайны выконваў абавязкі місіянера, адкрываў на тэрыторыі Усходняй Беларусі праваслаўныя храмы. Яму далі 5 гадоў сталінскіх лагераў, адкуль Серафім Шахмуць ужо не вярнуўся.

Спіс ахвяр рэпрэсій на слонімскай зямлі можна доўга працягваць. Бо сёння на Слонімшчыне бадай няма такой сям'і, якую не зачапілі рэпрэсіі акупантаў і дыктатараў.

## 79. Хто напісаў слонімскі вальс «Над Шчарай»?

Слонімскі вальс «Над Шчарай» напісаў паэт Сяргей Новік-Пяюн (1906–1994). З 1931 года ён жыў у Слоніме пад наглядам паліцыі. Разам з жонкай Людмілай у 1938–1939 гадах выдаваў польскамоўную газету «Gazeta Słonimska». У 1939–1940 гадах працаваў у сістэме народнай

адукацыі інспектарам Слонімскага раённага аддзела народнай асветы, потым дырэктарам Слонімскага раённага краязнаўчага музея (1940–1941). У чэрвені 1941 года выратаваў экспанаты музея разам з Язэпам Стаброўскім, схаваўшы іх на ўскраіне горада.

Пасля вайны працаваў дырэктарам Слонімскага музея. Быў рэпрэсаваны. У 1959 годзе вярнуўся ў Беларусь. Жыў у Слоніме, Нясвіжы, Мінску.



• *Сяргей Новік-Пяюн*

## 80. Хто такі Антон Карніцкі?

Антон Карніцкі (1912–1944) — выдатны беларускі мастак і музыкант. Жыў у Слоніме. Вучыўся ў Акадэміі мастацтваў у Варшаве. Пасля смерці мастака ў Слоніме ў 1944 годзе была наладжана яго персанальная выстава. Антон Карніцкі на сваіх палотнах адлюстроўваў родную Слонімшчыну — яе хаты, прыроду, людзей. Працаваў алейнымі фарбамі і алоўкам. Падчас Другой сусветнай вайны немцы вывезлі ў Германію 180 ягоных карцін. Некалькі твораў мастака захоўваюцца ў Слонімскім краязнаўчым музеі.

## 81. Хто такі Анатоль Іверс?

Анатоль Іверс (Іван Міско; 1912–1999) — беларускі паэт, публіцыст, журналіст. У гады Другой сусветнай вайны кіраваў Слонімскай антыфашысцкай арганізацыяй. Першы зборнік паэзіі

«Песні на загонах» выйшаў з друку ў Вільні ў 1939 годзе. Выдаў яшчэ некалькі кніг паэзіі. Нарадзіўся ў вёсцы Чамяры.



• *Анатоль Іверс*

## 82. Якія знакамітыя палякі нарадзіліся на Слонімшчыне?

На Слонімшчыне нарадзілася вельмі шмат знакамітых палякаў, якія жылі і жывуць не толькі ў Польшчы, але і ў іншых краінах свету. У вёсцы Хмяльніца нарадзіўся Юзаф Быхавец (1778–1845) — польскі асветнік і перакладчык. У Слоніме нарадзіўся польскі паэт, перакладчык, публіцыст Самуіл Гіршорн (1876–1942). Вёска Горка Слонімскага павета з'яўляецца радзімай польскага пісьменніка Крыштофа Завішы (1666–1721). А радзімай польскага сацыёлага, палітыка, публіцыста, доктара гуманітарных навук, прафесара Мікалая Казакевіча (1923–1998) з'яўляецца Альбярцін. Польскі журналіст, педагог і выдавец Міхал Канарскі (1784–1861) таксама нарадзіўся ў Слоніме. Слонім — радзіма і польскага паэта, перакладчыка Юльяна Корсака (1806–1855). Са Слоніма родам быў і польскі мастак Фларыян Пякарскі (1868–1919), а таксама кінарэжысёр Збігнеў Хмялеўскі (1926–2009) і г. д. У Варшаве сёння пражывае артыстка тэатра і кіно Аліна Яноўска-Заблоцка (1923), таксама родам са Слонімшчыны.

## 83. Якая легенда існуе пра Бяздоннае возера?

Бяздоннае возера знаходзіцца недалёка ад вёскі Клепачы. Жыхары гэтай вёскі пра возера расказваюць такую легенду. Даўным-даўно на месцы сучаснага возера была вёска з дзвюма вуліцамі, якія перасякаліся. Аднойчы ў гэту вёску прыйшла бедная жанчына. Яна хадзіла па хатах і прасіла міласціны. Але людзі яе не вельмі ветліва сустракалі — зневажалі, некаторыя адмаўляліся даць кавалачак хлеба ці бульбінку, сякое-такое адзенне. І раптам з крайняй хаты выйшаў мужчына і паклікаў незнаёмку ў хату, накарміў яе і даў яшчэ хлеба на дарогу. Здзіўленая жанчына была вельмі ўдзячна за такую дабрыню, шчырасць і міласэрнасць. Яна запытала гаспадара: «Хто яшчэ жыве з вамі ў гэтай добрай хаце?» Мужчына адказаў, што жонка яго памерла ўжо даўно, а ён жыве з сынам-падлеткам. Тады жанчына папярэдзіла: «Бярыце свайго сына і як мага хутчэй уцякайце з гэтай вёскі, бо ваша вёска хутка праваліцца ў бездань і загінуць усе людзі разам з усёй маёмасцю. Ідзіце з сынам на гару, якая бачна з вёскі на поўнач гледзячы, але не аглядайцеся на сваю хату».

Мужчына з сынам паслухалі жанчыну і хуценька выйшлі з вёскі на гару, але не вытрымалі і азірнуліся. Вёскі ўжо не было. Замест яе ўтварылася возера, а дзе былі дарогі — там засталася гладзь вады. Возера сталі называць Бяздонным, бо вёска правалілся ў бездань. І да сённяшніх дзён ніхто ў ім не можа вымераць глыбіню і дастаць да дна.

## 84. Хто такія Бялько і Бялькевіч?



• *Уладзімір Бялько*

Калі ў 1920–1930-х гадах Заходняя Беларусь апынулася пад Польшчай, амаль у кожнай беларускай вёсцы дзейнічалі падпольныя моладзевыя ячэйкі. Сярод актывістаў ячэек на Слонімшчыне ў той час быў і 17-гадовы юнак з вёскі Юхнанавічы Леанід Бялькевіч.

Хлопец быў малапісьменны, бо не хапала грошай на вучобу. Таму адукацыяй займаўся сам. На ўлонні роднай прыроды, каля аднаго стройнага клёна, пісаў паэтычныя радкі. А потым іх акуратна перапісваў у асобныя сшыткі. А каб ніхто не здагадваўся, пад вершамі ставіў подпіс: Леанід Клён.

У той час па ўсёй Заходняй Беларусі пашыраўся патрыятычны рух, асабліва сярод беларускай моладзі. Пачала дзейнічаць легальная арганізацыя — Беларуская сялянска-рабочая грамада. Каб стрымаць яе рост, урад Пілсудскага ў студзені 1927 года разграміў Грамаду. Пачаліся масавыя арышты грамадоўцаў і актывістаў.

У 1928 годзе на Слонімшчыне арыштавалі і Леаніда Бялькевіча. Спачатку яго прывезлі ў Міжэвіцкі пастарунак паліцыі, а потым у Слонімскую дэфензіву. Там юнака катавалі. Пасля ўсіх здзекаў Леанід неўзабаве захварэў на сухоты. Але турэмшчыкі датэрмінова выкінулі яго з турмы, каб не памёр за кратамі. Пасля зняволення Леанід Бялькевіч з кожным днём слабеў, сухоты грызлі яго цела. А 16 сакавіка 1931 года юнака не стала. Асобныя знойдзеныя вершы Леаніда Бялькевіча апублікаваныя ў беларускіх газетах і часопісах.

Пазней дэфензіўшчыкі так зрабілі і з другім слонімскім юнаком-змагаром за беларускасць, Уладзімірам Бялько (1911–1933). Ён выдаваў падпольную газету «Піянер», пісаў вершы. Юнака з вёскі Мяльканавічы таксама катавалі ў турме, а потым адправілі дамоў, дзе ён хутка і памёр. На жаль, «Піянера» і вершаў Уладзіміра Бялько не захавалася.

## 85. Хто такі Гальяш Леўчык?

Гальяш Леўчык (Ілья Ляўковіч; 1880–1944) — беларускі паэт, публіцыст, перакладчык, мастак, музыкант, калекцыянер. Ён быў вялікім кніжнікам. Меў багатыя, найперш беларусазнаўчыя бібліятэкі ў Варшаве і ў Слоніме. Збіраў і апрацоўваў фальклор, калекцыянаваў народную кераміку. Добра іграў на гітары, акарыне, маляваў. Марыў стварыць у Слоніме музей старажытнай беларускай кнігі. Нарадзіўся ў Слоніме. Загінуў у Варшаве.



• *Гальяш Леўчык*

## 86. Калі з’явілася ў Слоніме папяровая вытворчасць?

Першае ўпамінанне аб папяровай вытворчасці ў Слоніме адносіцца яшчэ да 1790 года, калі аднаму з Пуслоўскіх быў выдзелены лес і адведзены зямельны ўчастак для будаўніцтва папяровага млына. А ў 1927 годзе, пасля ўсіх войнаў, папяровая фабрыка аднавіла сваю дзейнасць. Гэты год і лічыцца годам нараджэння кардонна-папяровага завода «Альбярцін».

## 87. Што вы ведаеце пра слонімскую ссылку Адама Станкевіча?

Беларускі рэлігійны, палітычны і культурна-асветніцкі дзеяч, адзін з заснавальнікаў Беларускай хрысціянскай дэмакратыі, рэдактар часопіса «Хрысціянская думка» Адам Станкевіч (1891–1949) да пачатку Другой сусветнай вайны жыў у Слоніме і вёў богаслужэнне ў касцёле бернардзінак, які знаходзіцца ў самым цэнтры горада. А выслалі яго сюды з Вільні за тое, што быў беларускім святаром і правіў службу на беларускай мове. 27 снежня 1938 года Адам Станкевіч прыехаў у Слонім. Акрамя службы ў касцёле бернардзінак (служыў па-польску, па-беларуску польскія ўлады не дазволілі), шмат пісаў на роднай мове, перапісваўся з беларусамі з Вільні, Беластока, Варшавы, Прагі, Мінска, Санкт-Пецярбурга і іншых гарадоў. Тут, у Слоніме, ён пісаў свае «Каляндарныя нататкі», рэцэнзіі на беларускія кнігі.

З кастрычніка 1939 года Адам Станкевіч назаўсёды развітаўся са Слонімам і прыехаў у Вільню. Тут ён аднавіў выданне часопіса «Крыніца», сустракаўся з прэзідэнтам Літвы А. Смятонай, узначальваў Беларускі цэнтр у Літве, выдаваў свае кнігі і брашуры, стварыў Камісію аховы культурных помнікаў Беларусі, займаўся педагагічнай дзейнасцю. 13 красавіка 1949 года яго арыштавалі органы НКУС, а 31 жніўня асобая нарада пры Міністэрстве дзяржаўнай бяспекі СССР прысудзіла яму 25 гадоў зняволення. У канцы лістапада 1949 года Адама Станкевіча не стала. Пахаваны беларускі святар у вёсцы Шаўчэнка Тайшэцкага раёна Іркуцкай вобласці Расіі.

## 88. Якія назвы хутароў зніклі з карты Слонімскага раёна ў другой палове XX стагоддзя?

У другой палове XX стагоддзя з карты Слонімскага раёна зніклі хутары: Акольна, Барсукоўшчына, Басіны, Баяры, Бор, Верашоўшчына, Вербы, Волька, Выбар, Гульбітава, Гарадок, Глінішча, Госціна, Гута, Гуціска, Завепраўка, Залессе, Зарэчна, Кабылка, Касцінагаць, Ліпнікі, Малінаў Груд, Нівішчы, Паддубішчы, Падзадвор'е, Пацяробы, Перадзел, Праванроцце, Руда, Селішча, Сервітут, Соміна, Студзенка, Тартакі, Церахоўшчына, Чмялец, Янава і іншыя.

## 89. Хто такі Васіль Супрун?

Васіль Супрун (1926–2007) — беларускі паэт, краязнавец, археолаг, грамадскі дзеяч, адзін з кіраўнікоў патрыятычнага падполля «Чайка».

Скончыў Слонімскую настаўніцкую семінарыю, Ганцавіцкае педагагічнае вучылішча, а таксама гістфак Белдзяржуніверсітэта. Вершы пачаў друкаваць ў першай палове 1940-х гадоў. Выйшлі з друку кнігі «Крык» (1993), «Рэха абуджаных дзён» (1994), «За смугою часу» (1994), «Дзеі над Шчарай» (2000) і іншыя. У 1947 годзе быў рэпрэсаваны. У 1957 годзе вярнуўся на радзіму. Нарадзіўся ў вёсцы Глоўсевічы. Жыў і памёр у Слоніме.



• *Васіль Супрун, 1955 год*

## 90. Што вы ведаеце пра патрыятычнае падполле «Чайка»?

Напачатку 1946 года ў асяродку настаўніцтва і моладзі Слонімшчыны ўзнікла ідэя арганізаванага супраціву камуністычнаму руху і гвалтоўнай русіфікацыі Беларусі. З гэтай мэтай у пачатку траўня 1946 года ў Слоніме актывісты руху правялі ўстаноўчы сход, на якім прынялі рашэнне стварыць падпольную беларускую арганізацыю з канспірацыйнай назвай «Чайка», якая ставіла б сваёй мэтай змаганне за нацыянальныя правы і годнасць свайго народа, яго культуры, мовы, гісторыі і, урэшце, за свабоду і незалежнасць Беларусі. У сходзе ўдзельнічалі Васіль Супрун (які быў абраны кіраўніком), Міхась Ракевіч, Міхась Чыгрын, Алесь Гардзейка, Леакадзія Кавальчук і Ніна Карач (сакратар).




• *Паштоўка, прысвечаная сябрам «Чайкі»*

«Чайка» за нейкі месяц выйшла далёка за межы Слонімшчыны, што патрабавала паглыбленай распрацоўкі праграмы і схемы ўнутранай будовы арганізацыі. А праз пэўны час узнікла і неабходнасць стварэння так званага Цэнтра беларускага вызваленчага руху (ЦБВР), які павінен быў ажыццяўляць агульнае кіраўніцтва рухам.

Кіраўніком ЦБВР быў абраны Васіль Супрун, намеснікам па арганізацыйна-палітычнай рабоце стаў Аляксандр Барэйка, адказным за ваенізаваны рух — Міхась Ракевіч.

Але за беларускімі хлопцамі і дзяўчатамі пільна сачыла спецгрупа МДБ. І ў чэрвені 1947 года беларускіх патрыётаў пачалі арыштоўваць. Быў арыштаваны і Васіль Супрун. Амаль паўгода знаходзіўся ў баранавіцкай следчай турме «Крывое кола» і мінскай «амерыканцы».

21 лістапада 1947 года Ваенны трыбунал войскаў МУС Беларускай акругі ў Мінску паводле артыкулаў 63-1 і 76 КК БССР (здрада радзіме і антысавецкая агітацыя) асудзіў Супруна на 25 гадоў пазбаўлення волі і 5 гадоў паражэння ў правах з канфіскацыяй маёмасці.

16 чэрвеня 1956 года, згодна з пастановай Вярхоўнага Савета СССР, Васіль Супрун быў вызвалены з няволі і, пасля 9 гадоў, атрымаў дазвол вярнуцца на радзіму.

## 91. Хто такі Віталь Скалабан?

Віталь Скалабан (1947–2011) — беларускі гісторык, кандыдат гістарычных навук. Даследаваў гісторыю беларускага нацыянальнага руху, культуры XIX — пачатку XX стагоддзя, пытанні архівазнаўства, краязнаўства і бібліяграфіі. Адзін са складальнікаў бібліяграфічных дапаможнікаў. Аўтар шматлікіх артыкулаў. Сааўтар сцэнарыяў дакументальна-мастацкіх тэлефільмаў. Нарадзіўся ў вёсцы Шылавічы.



• *Віталь Скалабан*

## 92. Хто такі Янка Саламевіч?



• *Янка Саламевіч*

Янка Саламевіч (1938–2012) — беларускі літаратуразнавец, фальклnetwork, бібліёграф, перакладчык, энцыклапедыст, кандыдат філалагічных навук, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі ў галіне навукі (1976). Плён доўгіх пошукаў і знаходак — ягоны «Слоўнік беларускіх псеўданімаў і крыптанімаў (XVI–XX стст.)» (1983). Нарадзіўся ў вёсцы Малая Кракотка.

## 93. Якая легенда існуе пра гарадзішча каля вёскі Збочна?

Паводле мясцовай легенды, гарадзішча каля вёскі Збочна звязана з закапаным скарбам, які ноччу свеціцца. А была справа так. Нейкі салдат, які ў гэтай мясцовасці прымаў удзел у бітве, аднойчы закапаў ваенны залаты скарб. Прайшло шмат гадоў. Калі ён стаў старым, то ўспомніў схаваны скарб і прыехаў сюды, каб яго адшукаць. Калі ён падышоў да гарадзішча, то ўбачыў, што ўжо не растуць альховыя дрэвы, пад якімі быў закапаны скарб. Стары салдат пачаў шукаць скарб, але дарэмна. І тады ён сказаў мясцовым людзям пра золата і пра тое, што калі хто яго знойдзе, то хопіць ім і іх нашчадкам. Людзі кажуць яшчэ, што чатыры разы ў суткі — вечарам, ноччу, раніцай і ў поўдзень — многія бачылі, як прасушвалі скарб.

## 94. Хто такія Алег і Павел Лойкі?



• *Алег Лойка*

Алег Лойка (1931–2008) — адзін з найталенавіцейшых людзей Слонімшчыны. Пісьменнік, педагог, доктар філалагічных навук, прафесар, член-карэспандэнт Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі. Аўтар шматлікіх кніг паэзіі, крытыкі, перакладаў, падручнікаў. Нарадзіўся ў Слоніме.

Сын Алега Лойкі Павел Лойка (1958–2010) — кандыдат гістарычных навук, даследаваў праблемы дзяржаўна-палітычнага развіцця Вялікага Княства Літоўскага ў XVI стагоддзі, аграрную гісторыю Беларусі XVI–XVIII стагоддзяў. Нарадзіўся ў Слоніме.

## 95. Хто такі Мікола Арочка?



• *Мікола Арочка*

Мікола Арочка (1930–2013) — беларускі паэт, празаік, крытык, літаратуразнавец, перакладчык, доктар філалагічных навук. Скончыў Белдзяржуніверсітэт, працаваў у Інстытуце літаратуры Акадэміі навук Беларусі. Выдаў дзясяткі кніг паэзіі, крытычных і даследчых артыкулаў, перакладаў. Напісаў гістарычныя драматычныя паэмы «Судны дзень Скарыны», «Курганне», «Крэва», «Каранацыя Міндоўга». Нарадзіўся ў вёсцы Вецявічы, дзе жыў у апошнія гады і памёр.

## 96. Калі ў Слоніме быў адкрыты краязнаўчы музей?

20 верасня 1929 года ў Слоніме быў урачыста адкрыты краязнаўчы музей, заснаваны на базе калекцыі Язэпа Стаброўскага. На ўрачыстасці прысутнічаў прэзідэнт Польшчы Ігнацы Масціцкі, які ў той час наведваў Слонімшчыну.

## 97. Хто такі Язэп Стаброўскі?

Язэп Стаброўскі (1870–1968) — адзін са знакамітых слонімцаў XX стагоддзя. Археолаг, краязнавец, гісторык, філосаф, вынаходнік, вайсковец. Заснавальнік Слонімскага раённага краязнаўчага музея. Нарадзіўся ў Слоніме. Усё жыццё збіраў старыя рэчы, якія потым падараваў Слоніму. Яны і ляглі ў аснову будучага музея.



• *Язэп Стаброўскі з жонкай Веранікай Давідоўскай, 1916 г.*

## 98. Якія каштоўныя экспанаты захоўваюцца ў Слонімскім краязнаўчым музеі?

Сярод усіх экспанатаў музея сёння захоўваюцца і вельмі рэдкія, нават унікальныя. Да іх належаць стараславянскі ідал X стагоддзя, скарб польска-літоўскіх манет XVI–XVIII стагоддзяў, калекцыі старадрукаў і дакументаў XVI–XIX стагоддзяў, царкоўныя

рэчы XVIII–XIX стагоддзяў, стары драўляны водаправод, пракладзены ў Слоніме М. К. Агінскім у XVIII стагоддзі, план Слоніма 1825 года, планы асобных маёнткаў XVIII–XIX стагоддзяў, бюст Напалеона Банапарта скульптара Р. Каломба, 1885 года, драўляны лебедзь з палаца Слізняў і іншыя.

## 99. Якія каштоўнасці зніклі са Слонімскага музея падчас Другой сусветнай вайны?

На працягу чатырох ваенных гадоў са Слонімскага краязнаўчага музея зніклі:

1. Шахматная дошка з дзвюх палавінак з чорнага дрэва і слановай косці гетмана Льва Сапегі (XVI ст.).
2. Англійскі гадзіннікавы механізм без аправы (XVII ст.).
3. Нападлогавы гадзіннік XVIII стагоддзя.
4. Вялікі круглы срэбны англійскі гадзіннік у трайным срэбным куверце са срэбным ланцужком (XVIII ст.).
5. Бронзавы медаль з выяваю Хрыста.
6. Статуэтка з дрэва вялебнага Ніла Сорскага.
7. Пудзілы птушак і звяроў.
8. Калекцыі манет розных дзяржаў з пачатку I стагоддзя. У тым ліку паўкілаграма срэбных манет.
9. Беларускія народныя касцюмы, бялізна, дываны, паясы, абсталяванне беларускай хаткі і г. д.

10. Серыя срэбных, бронзавых і пазалочаных значкоў, медалёў, крыжыкаў, ордэнаў розных дзяржаў.

11. Сем партрэтаў і дваццаць тры карціны (алей) на палатне ў пазалочаных рамах галандскіх, рускіх і польскіх мастакоў XVI стагоддзя.

12. 514 кніг старых выданняў на рускай, польскай, лацінскай, французскай, беларускай, шведскай, нямецкай і іншых мовах.

13. Сімфаньета — музычная скрынка з жалезнымі пласцінкамі IX стагоддзя.

14. Старадаўні фарфоравы і срэбны посуд і крыштальныя келіхі XVII стагоддзя, якімі карысталіся царскія, княжацкія, графскія і іншыя вяльможы.

15. Камплект грамафонных пласцінак з дакладам Сталіна аб праекце Канстытуцыі СССР.

16. Срэбны медаль-манета 138 года да нашай эры з надпісам на старажытнаяўрэйскай мове часоў Сімона Макавея.

17. Рознакаляровы пояс з конскіх валасоў, які выткаў на працягу шасці гадоў палітасуджаны польскай турмы М. Галаўко.

18. Бронзавы абразок з выяваю распятага Хрыста (XVI ст.).

19. 18 вырабаў з мастацкай фініфці растоўскай работы Назарава.

20. Каўказскі «кубінскі» дыван памерам 4 × 1,3 метра і вагою 24 кілаграмы.

21. Старадаўнія скрыпка і патэфон.

22. 200 пласцінак з галасамі вядомых рускіх, італьянскіх, французскіх, польскіх, яўрэйскіх і іншых спевакоў.

23. 372 кнігі рускіх класікаў і акадэмічныя выданні ў скураных пераплётах.

24. Навуковыя працы Язэпа Стаброўскага: калекцыя фотаздымкаў курганоў, альбом з малюнкамі (каля 3000 штук), рукапісныя сшыткі па археалогіі, якія пісаліся і збіраліся на працягу 52 гадоў.

25. Венскі мікраскоп Рэйхерта з двума аб'ектывамі ў паліраванай скрынцы з чырвонага дрэва і з калекцыяй прэпаратаў да яго.

26. Фотаапарат з чырвонага дрэва з аб'ектывам, імгненным затворам, памерам 18 × 24 сантыметры, у футляры.

27. Камплект інструментаў цяслярскіх і сталярскіх.

28. 7 венскіх крэслаў з гнутага ясеню.

29. Канапа двайная са сценкамі.

30. Столік ясянёвы паліраваны.

31. Дубовы пісьмовы стол з дзвюма тумбачкамі.

32. 5 шкляных шафаў у ясянёвых апраўах.

33. 14 княжацкіх і графскіх пячатак з XVII стагоддзя.

34. Амулет егіпецкі.

35. Пісьмовы старадаўні прыбор з белага мармуру з бронзаю.

36. Старадаўняя настольная лямпа з фарфоравым абажурам і іншыя рэчы.

## 100. Якія яшчэ музеі існуюць на Слонімшчыне?

У Слонімскай сярэдняй школе № 4 з 1965 года працуе народны музей імя Аляксандра Жукоўскага. Музей займае асобны будынак з трох вялікіх залаў. У гэтых залах захоўваюцца звыш 6 тысяч унікальных экспанатаў, большасць экспанатаў прысвечаны Другой сусветнай вайне, выпускнікам школы, Слонімшчыне XX стагоддзя. Музей стварыў настаўнік гэтай школы, заслужаны работнік культуры Беларусі Аляксандр Жукоўскі. Яго імем і названы школьны музей.

У Слонімскай сярэдняй школе № 2 існуе невялікі музей Героя Савецкага Саюза Кузьмы Гнедаша і радысткі Клары Давыдзюк, якія загінулі ў гады Другой сусветнай вайны. У СШ № 10 у 1986 годзе адкрыўся музей «Горад Слонім і яго героі». А ў Слонімскім ліцэі дзейнічае пакой-музей беларускага паэта Валянціна Таўлая.

У 1992 годзе ў Слонімскай цэнтральнай бібліятэцы імя Якуба Коласа быў адкрыты музей кнігі. Гэта першы музей кнігі ў Гродзенскай вобласці. Музей складаецца з двух аддзелаў: адзін прысвечаны Якубу Коласу, другі — літаратурнай Слонімшчыне. У музеі захоўваецца шмат кніг з аўтографамі вядомых беларускіх літаратараў, перададзеных у дар бібліятэцы. Ганаровае месца ў экспазіцыі займаюць скульптуры Францыска Скарыны і паэта Анатоля Іверса, якія падараваў музею слонімскі скульптар Леанід Богдан.

Ёсць краязнаўчыя музеі ў Навадзявяткавіцкай і Дзераўноўскай сярэдніх школах, музей баявой славы 11-й механізаванай брыгады і іншыя.

## 101. Ці існаваў у Слоніме народны тэатр?

Пасля Другой сусветнай вайны пры Слонімскім РДК быў створаны драматычны гурток, якім кіраваў 27-гадовы франтавік Аляксандр Бялоў (1921–1885). У 1948 годзе гурток паставіў свой першы спектакль «Шляхі-дарогі». Потым тэатральны гурток узначальвалі Міхаіл Фрыдман і Мікалай Варвашэвіч. У 1959 годзе драмгурток атрымаў званне народнага тэатра.



• *Слонімскі народны тэатр, 1952 год*

## 102. Калі быў адкрыты Слонімскі драматычны тэатр?

Восенню 1989 года Міністэрства культуры Беларусі прапанавала Слонімскаму тэатру-студыі перайсці на дзяржаўную структуру працы. І з 1 студзеня 1990 года ў Слоніме пачаў дзейнічаць беларускі драматычны тэатр (цяпер драматычны тэатр), дырэктарам і рэжысёрам у адной асобе стаў заслужаны дзеяч культуры Рэспублікі Беларусь Мікалай Варвашэвіч (1934–2001). Цяпер галоўным рэжысёрам тэатра з'яўляецца Васіль Сявец.

## 103. Што ўяўляе сабой рэпертуар Слонімскага драмтэатра?

Слонімскі драматычны тэатр за гады свайго існавання паставіў больш за 100 спектакляў для дарослых і юных гледачоў. На сцэне тэатра былі ажыццёўлены пастаноўкі па п’есах беларускіх, рускіх, украінскіх, польскіх, французскіх, італьянскіх драматургаў. Найбольш тэатр працуе з беларускай драматургіяй. Пастаўлены спектаклі па п’есах Янкі Купалы, Уладзіслава Галубка, Францішка Аляхновіча, Леапольда Родзевіча, Андрэя Макаёнка, Аляксея Дударава, Аляксея Якімовіча і іншых аўтараў.




• *Драмтэатр*

## 104. Якіх ганаровых грамадзян горада Слоніма вы ведаеце?

Ганаровымі грамадзянамі Слоніма з’яўляюцца расійскія Андрэй Варухін, Мікалай Вінаградаў, Васіль Гарэлаў, Аляксандр Шыпуноў, Уладзімір Яршоў з Расіі, Іван Сухамлін з Украіны, Сцяпан Пісакоў з Віцебшчыны. А таксама слонімцы — вайскоўцы Міхаіл Анішчык, Яўген Леашэня, скульптар Іван Міско і кідальнік молата Іван Ціхан.

## 105. Хто такі Аляксандр Звяровіч?

Аляксандр Звяровіч — эстрадны спявак. Ён пражыў толькі 36 гадоў. Яго не стала ў 2011 годзе. Працаваў салістам Гродзенскай абласной філармоніі. Прымаў удзел у 40 розных эстрадных конкурсах і фестывалях, меў каля 30 званняў. Спяваў беларускія і цыганскія песні. Нарадзіўся ў Слоніме, там і памёр.



• *Аляксандр Звяровіч*

## 106. Якія слонімскія спартсмены праславілі Беларусь?

Іван Ціхан — беларускі атлет, кідальнік молата, трохразовы чэмпіён свету (2003, 2005, 2007), сярэбраны прызёр летніх Алімпійскіх гульняў у Афінах (2004), заслужаны майстар спорту Рэспублікі Беларусь. Нарадзіўся ў вёсцы Глоўсевічы ў 1976 годзе.

Чэмпіёнам XXI Алімпійскіх гульняў у Манрэалі па веславанню на байдарцы-двойцы ў пары з С. Нагорным з Украіны на дыстанцыі 500 метраў стаў слонімец Уладзімір Раманоўскі (1957–2013). А Андрэй Цівончык (н. 1970) з Жыровічаў быў бронзавым прызёрам па скачках у вышыню з шастом на XXVI Алімпійскіх гульнях у г. Атланце ў 1996 годзе.

Аляксей Кульгавы (н. 1982) — чэмпіён, двухразовы сярэбраны і бронзавы прызёр чэмпіянату свету (2000, веславанне на каноэ).

Уладзімір Арцюшкевіч (н. 1959) — заслужаны майстар спорту міжнароднага класа па матаболе. Дванаццаціразовы чэмпіён Еўропы.

Анатоль Ганчар (н. 1950) — сярэбраны прызёр чэмпіянату Еўропы па бегу на 800 метраў.

Мікалай Дудкін (н. 1946) — майстар спорту міжнароднага класа па лёгкай атлетыцы (трайны скачок). Чэмпіён Еўропы.



• *Уладзімір Раманоўскі*

## 107. Калі пачалося будаўніцтва Слонімскай камвольна-прадзільнай фабрыкі?

Будаўніцтва Слонімскай камвольна-прадзільнай фабрыкі пачалося 12 жніўня 1971 года. Гэта на той час было найбуйнейшае прадпрыемства Слонімшчыны. У снежні 1977 года была здадзена першая чарга фабрыкі на 25 тысяч прадзільных верацён, у кастрычніку 1978 года — другая чарга.

## 108. Якія помнікі і шыльды ёсць у Слоніме?

Шмат помнікаў у Слоніме ў гонар вызваліцеляў горада ў гады Другой сусветнай вайны. На вуліцы Першамайскай у 1968 годзе быў пастаўлены помнік — танк Т-34 на бетонным п’едэстале, каля СШ № 4 — мадэль самалёта Іл-2. На вуліцы Пушкіна на брацкай магіле воінаў, якія загінулі ў гады Другой сусветнай вайны, у 1956 годзе быў пастаўлены помнік — скульптура салдата з аўтаматам і апушчаным у жалобе сцягам работы скульптара А. Курачкіна. Побач з помнікам знаходзяцца магілы Героя Савецкага Саюза Кузьмы Гнедаша і старшага сержанта Клары Давідзюк. У 1957 годзе на магіле Гнедаша і Давідзюк устаноўлена стэла з чорнага лабрадарыту. Недалёка ад гэтага помніка знаходзіцца яшчэ адзін, прысвечаны слонімскім юнакам, якія загінулі ў Афганістане.

На Чырвонаармейскай вуліцы здалёк бачна мемарыяльная шыльда, прысвечаная дэпутату Вярхоўнага Савета БССР Ганне Кароль, якую забілі ў 1947 годзе ў вёсцы Шылавічы. Ёсць мемарыяльныя шыльды, прысвечаныя Герою Савецкага Саюза Льву Даватару, піянеру-герою Васю Крайняму, удзельнікам Другой сусветнай вайны Мікалаю Мірошніку, палкоўніку Мікалаю Хлюпіну і іншых асобам, якія мелі дачыненне да апошняй вайны на Беларусі. На будынку драмтэатра прымацавана шыльда, прысвечаная Міхалу Казіміру Агінскаму, а на будынку музея — шыльда, прысвечаная заснавальніку музея Язэпу Стаброўскаму.



• *Спаса-Праабражэнскі сабор*

## 109. Якія праваслаўныя храмы ёсць у Слоніме?

У Слоніме дзейнічаюць Свята-Троіцкі сабор, Свята-Праабражэнскі сабор, храм Афанасія Брэсцкага, храм Серафіма Жыровіцкага, будуецца храм Аляксандра Неўскага на вуліцы Віленскай.

## 110. Якія каталіцкія храмы ёсць у Слоніме?

У Слоніме дзейнічаюць тры каталіцкія касцёлы: касцёл Святога Андрэя, касцёл Бязгрэшнага зачацця Святой Марыі, касцёл Найсвяцейшай Панны Марыі.



• *Касцёл Святога Андрэя*

## 111. Які ўнікальны помнік драўлянага дойлідства знішчылі ў Слоніме напачатку XXI стагоддзя?

Напачатку XXI стагоддзя ў Слоніме быў знішчаны гарадскі асабняк на вуліцы Савецкай. Ён быў пабудаваны з дрэва ў 1923 годзе і паўтараў формы і прыёмы рэпрэзентацыйнага сядзібнага будаўніцтва канца XVIII — пачатку XIX стагоддзя.



- *Вясковая баба з Трыбушкоў Слонімскага павета. Паштоўка, 1906 год*

## 112. Як да 1964 года называлася вёска Мірная?

Да 1964 года вёска Мірная на Слонімшчыне называлася Трыбушкі. У 1886 годзе ў Трыбушках пражывала каля 250 жыхароў, там былі валаснное праўленне, вятрак і заезны двор.

## 113. Якімі мастакамі сёння можа ганарыцца Слонімшчына?

У Слоніме пражывае вельмі шмат таленавітых мастакоў. Скульптар Леанід Богдан падараваў Слоніму мемарыяльныя шыльды Язэпа Стаброўскага, Міхала Казіміра Агінскага, Васі Крайняга, бюсты слонімскіх

літаратараў і іншыя свае творы. У вёсцы Дзераўная жыве летам з сям'ёй цудоўны мастак Мікола Бушчык. У Мінску працуе мастак-карыкатурыст Алег Карповіч. Цікавыя і розныя мастакі жывуць у Слоніме. Яны стварылі творчае аб'яднанне «Арт-Слонім»: Яўген Іваноў, Уладзімір Макарэвіч, Андрэй Сідараў, Леанід Богдан, Васіль Грыневіч, Тамара і Алесь Стацэнкі, Казімір Кулеш і іншыя. У Слоніме працуе таленавітая майстрыха па кераміцы Надзея Салейка.

## 114. Якімі літаратарамі славіцца Слонімшчына?

Сёння на Слонімшчыне пражываюць пісьменнікі Зьніч (Алег Бембель), Аляксей Якімовіч, Сяргей Чыгрын, Ірына Войтка, Мікола Канановіч. У іншых гарадах Беларусі жывуць слонімскія літаратары Уладзімір Ягоўдзік, Святлана Воронік, Уладысь Цвяткоў, Марыя Верціхоўская.

## 115. Ці бываў на Слонімшчыне Уладзімір Караткевіч?



• *Уладзімір Караткевіч*

Пісьменнік Уладзімір Караткевіч (1930–1984) бываў на Слонімшчыне шмат разоў. Упершыню ён прыехаў сюды летам 1963 года. Разам з ім прыязджалі Янка Брыль і Уладзімір Калеснік.

Другі раз ён наведаў Слонімшчыну ў жніўні 1966 года ў складзе здымачнай групы «Беларусьфільма», якая стварала кароткаметражны дакументальны фільм «Памяць каменя». Вельмі шчыра сябраваў Уладзімір Караткевіч з Алегам

Лойкам. Бываючы ў Слоніме, пісьменнік заўсёды гасцяваў у бацькоўскай хаце Алега Лойкі, якая знаходзіцца на вуліцы Зялёнай.

У жніўні 1981 года Уладзімір Караткевіч прыязджаў у Слонім разам са сваёй жонкай Валянцінай Караткевіч і гісторыкам Анатолем Кулагіным. Яны тады збіралі матэрыял для сваёй будучай кнігі «Помнікі Слоніма».

## 116. Што сказаў пра вёску Вялікая Кракотка Уладзімір Караткевіч?

Беларускі пісьменнік Уладзімір Караткевіч вельмі любіў вёску Вялікая Кракотка (далучылася да Вялікай Кракоткі і Малая Кракотка ў 1967 годзе). Кракотку ён называў адной з найпрыгажэйшых вёсак Беларусі. А ў артыкуле «Шляхі ў палях» пісьменнік пісаў: «Малая Кракотка — адна з найпрыгажэйшых вёсак, што мне давялося бачыць за сваё жыццё...»



• *Вёска Вялікая Кракотка, 1967 год*

## 117. Якія геалагічныя помнікі прыроды знаходзяцца на тэрыторыі Слонімшчыны?

Найперш гэта Расколаты камень у Альбярцінскім лясніцтве. Даўжыня каменя 3,5 метра, шырыня 3 метры і вышыня калі 3,5 метра. Аб’ём надземнай часткі — каля 25 квадратных метраў.

Вялікі камень Сяњкоўшчынскі — ледавіковы гранітны валун, прынесены ледавіком са Скандынавіі прыкладна 220–150 тысяч гадоў таму ў часы сожскага зледзянення. Вага яго 26 тон.

Камлыга Кракоцкая з граніту. Узрост яе 220–150 тысяч гадоў.

Камень з ямкамі Кракоцкі. Яго даўжыня каля 3,5 метра, вышыня 1,5 метра. На паверхні гэтага валуна захаваліся пяць штучных адтулін, якія маюць культавае значэнне.

## 118. Якія геолага-геамарфалагічныя помнікі прыроды ёсць у Слонімскім раёне?

Гэта рэспубліканскія помнікі прыроды — Кракоцкая града (знаходзіцца за 6 кіламетраў ад вёскі Сялявічы), гара Старажытная (знаходзіцца ў міжрэччы Ісы і Плехаўкі за 0,6 кіламетра на поўнач ад вёскі Дзераўная), Прырэчанская выдма (знаходзіцца за 4,5 кіламетра на поўдзень ад вёскі Паўлава), гара Пяроўка (знаходзіцца каля вёскі Васілевічы), гара Каўпак (знаходзіцца каля вёскі Парэчча).

## 119. Калі быў узведзены на Слонімшчыне тэлерэтранслятар?

У 1965 годзе на тэрыторыі Слонімскага раёна быў узведзены самы высокі па тым часе ў Еўропе тэлевізійны рэтранслятар. Яго вышыня тады складала 350 метраў.

## 120. Колькі чалавек сёння пражывае на тэрыторыі Слонімскага раёна?

На тэрыторыі Слонімскага раёна пражывае сёння (паказчыкі на 1 студзеня 2015 года) 65 370 чалавек, у тым ліку ў Слоніме — 49 335. Сярод іх беларусаў — 86%, рускіх — 8%, палякаў — 3%, украінцаў — 2%, цыганоў — 0,1%, яўрэяў — 0,03%. Жанчыны складаюць 52% насельніцтва Слонімскага раёна. 75% жыхароў пражывае ў горадзе, а 25% — у сельскай мясцовасці.

## 121. Колькі жыхароў налічваў Слонім у XIX–XX стагоддзях?

У 1810 годзе ў Слоніме пражывала 2,7 тысяч жыхароў, у 1817 годзе — 2,4 тысячы жыхароў, у 1825 годзе — 5,3 тысячы, у 1857 годзе — 9,5 тысячы, у 1897 годзе — 15,9 тысячы, у 1905 годзе — 20,1 тысячы, у 1921 годзе — 9,6 тысячы, у 1931 годзе — 16 тысяч, у 1939 годзе — 26,7 тысячы, у 1975 годзе — 33 тысячы, у 1980 годзе — 37,9 тысячы, у 1985 годзе — 43 тысячы, у 1990 годзе — 47,2 тысячы, у 1995 годзе — 53,2 тысячы жыхароў.

## 122. Колькі жыхароў у пачатку XX стагоддзя пражывала ў вёсках Слонімскага павета?

Як паведамляе выданне Гродзенскага губернскага статыстычнага камітэта «Указатель населенным местностям Гродненской губерніі» (Гродна, 1905), у вёсцы Азарычы пражывала 253 чалавекі, у вёсцы Акачы — 245, у Акунінаве — 554, у Бабынічах — 765, у Баравіках — 327, у Бракаве — 349, у Бярдовічах — 172, Вараб'евічах — 350, у Ваўчунах — 191, у Вербалатах — 357, у Востраве — 541, у Высацку — 246, у Вяценеўцы — 330, у Ганьках — 224, у Глоўсевічах — 926, у Гуменіках — 287, у Дзеравянчыцах — 348, у Драпаве — 278, у Едначах — 296, у Загрыцькаве — 381, у Ісаевічах — 294, у Какошчыцах — 389, у Капустах — 90, у Кастровічах — 330, у Касцянях — 468, у Клепачах — 515, у Вялікай Кракотцы — 627, у Малой Кракотцы — 317, у Ламашах — 325, у Лапухове — 493, у Лысках — 549, у Мыславе — 691, у Нагуевічах — 552, у Нараставічах — 76, у Орлавічах — 135, у Пасінічах — 640, у Парэччы — 484, у Пераналоцы — 1090, у Разанаўшчыне — 190, у Рахавічах — 353, у Савічах — 616, у Скоўдзічах — 124, у Сурынцы — 540, у Сянькоўшчыне — 436, у Трыбушках (цяпер вёска Мірная) — 327, у Тушэвічах — 144, у Хадзявічах — 649, у Харашэвічах — 436, у Цывіншчыне — 150, у Чамярах — 800, у Чапялёве — 909, у Ягнешчычах — 440, у Якімавічах — 348.

## 123. Якія карысныя выкапні маюцца на тэрыторыі Слонімскага раёна?

На тэрыторыі Слонімскага раёна маюцца мел, пясчана-жвіровы матэрыял, торф, гліна і суглінкі, якія прызначаюцца для глыбокай керамікі, будаўнічыя пяскі і сапрапель.

## 124. Якія рэкі працякаюць па тэрыторыі Слонімшчыны?

Па тэрыторыі Слонімскага раёна працякае рака Шчара — прыток Нёмана. Шчара мае прытокі рэк Грыўда, Бяроза, Іса і Зальвянка.

## 125. Якая адлегласць ад Слоніма да іншых гарадоў Еўропы?

Слонімскі раён займае плошчу 1,5 тысячы квадратных кіламетраў. Ён знаходзіцца на перакрыжаванні важнейшых аўтамабільных і чыгуначных шляхоў. Ад Слоніма да Мінска — 203 кіламетры, да Гродна — 142 кіламетры, да Брэста — 194 кіламетры, да Гомеля — 450 кіламетраў, да Вільні — 220 кіламетраў, да Варшавы — 436 кіламетраў, да Кіева — 705 кіламетраў, да Берліна — 1103 кіламетры, да Санкт-Пецярбурга — 1041 кіламетр.

## Змест

**Чыгрын, С.**

Ч11 125 пытанняў і адказаў з гісторыі Слонімшчыны / Сяргей Чыгрын. — Мінск : Кнігазбор, 2015. — 84 с.
ISBN 978-985-7119-94-3.

Кніга па гісторыі Слонімшчыны ў пытаннях і адказах разлічана на шырокае кола чытачоў. Але ў першую чаргу на тых, хто цікавіцца гісторыяй сваёй Бацькаўшчыны, найперш — гісторыяй слонімскай зямлі.

**УДК 908(476.6)**
**ББК 26.89(4Беи)**

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Чыгрын** Сяргей Мікалаевіч

125 ПЫТАННЯЎ І АДКАЗАЎ З ГІСТОРЫІ СЛОНІМШЧЫНЫ

Адказны за выпуск *Г. Вінярскі*
Рэдактар *А. Спрытніч*
Вёрстка *Л. Гарадзецкай*
Карэктар *А. Спрытніч*

Падпісана да друку 10.11.2015. Фармат ????84×100 $^{1}/_{32}$.
Папера афсетная. Друк на рызографе. Ум. друк. арк. ??3,89.
Ул.-выд. арк. 2,06. Наклад 150 ас. Зак. .

ПУП «Кнігазбор».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюдніка друкаваных выданняў № 1/377 ад 27.06.2014.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 207-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка ў ААТ «Аргбуд».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюдніка друкаваных выданняў № 2/167 ад 1.10.2014.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.